PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (2016) ГОД XL БЕЛАСТОК 1 СТУДЗЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*ВІКТАР ШВЕД*

**Навагоднія роздумы**

Да нас прыходзіць Год чарговы,
Па ліку дзевяноста пяты.
Чым абнадзеіць нас гатовы,
Што прынясе у нашы хаты?

Ці будзе ў рэшце рэшт вясковы
Лічыцца люд наш працавіты?
Ці ўрэшце ён у ладзе новым
З даходам будзе жыць і збытам?

Ці гарадское асяроддзе
У дэмакратыі чароўнай
Поўніць не будзе ў Новым годзе
Шырокіх лікаў беспрацоўных?

Старэнькія пенсіянеры
Дзяржаве нашай быццам камень.
Яны ж ужо не мільянеры,
Хай хоць не будуць беднякамі.

Яднайцеся ўсе беларусы,
Сіла ж у еднасці і згодзе!
Дык засцілайма стол абрусам,
Вып'ем за шчасце ў Новым годзе!

*Чытачам „Нівы"
ў Новым 1995 годзе
жадаем
моцнага здароўя,
шчасця
ў кожнай дзялянцы
Вашага жыцця,
сустрэчаў толькі
з сумленнымі
і высакароднымі
людзьмі
ды самых прыемных
здарэнняў
на працягу
ўсіх 365 дзён.*

*Рэдакцыя*




*Яўген Міранові*ч

# МІНУЛАГОДНІЯ МАРЫ

У мяне складаецца ўражанне, што кожны год быццам карацейшы ад папярэдняга. Здаецца, нядаўна віталі 1994 г. а ён ужо аказаўся „Старым". Вітаем тады „Новы"—1995. За яго шчаслівыя 365 дзён вып'ем возера віна, шампанскага, гарэлкі.

Але пакуль невядома, які будзе гэты „Новы", можам толькі ўспамінаць, які быў „Стары". Зразумела, што кожны можа яго ацаніць па-свойму. Той, хто з узаемнасцю закахаўся, выйграў на латарэі нейкую маёмасць, дачакаўся нашчадкаў або ўласнай кватэры, скажа, што быў Ён шчаслівы. Той, хто патраціў блізкіх, абанкруціўся, каго пакінула жонка або каханка, недалёкае мінулае ацэніць наадварот. Тыя, што адышлі ад нас, можа будуць мець яшчэ іншыя меркаванні.

Але свет, у агульнасці, які быў, такі і ёсць. Як кожны год былі пажары, землятрусы, паводкі і засухі. У адным кутку свету людзі ўміралі з голаду, у другім — з абжорства, у трэцім — пад нажамі суседніх народаў ці плямёнаў. Аднак дзесяткі мільёнаў людзей нарадзілася. Ёсць нас на Зямлі намнога больш, чым было на пачатку 1994 г.

Мяшчанская і вясковая Еўропа (заходняя і ўсходняя) ужо трэці год дыскутуе пра аб'яднанне. Нічога новага. У кожным стагоддзі з'яўляецца прынамсі адно пакаленне палітыкаў, якое імкнецца аб'яднаць наш кантынент. Часам нешта ўдавалася. Больш драматычны быў заўсёды наступны этап — раз'яднанне.

У Беларусі выбралі першага ў гісторыі дзяржавы прэзідэнта, але прынцыпаў традыцыі не парушылі. Прэзідэнт, так як і яго папярэднікі са званнем першых сакратароў, таксама не пераносіць усяго, што беларускае і паводзіць сябе як чыноўнік сярэдняга ранга з суседняй краіны. Кур'ёз, прынамсі ў маштабе Еўропы.

У Польшчы традыцыі таксама нішто не пагражае. Усе тут змагаліся з усімі — „чорныя" з „чырвонымі", „ружовыя" з „зялёнымі", „зялёныя" з „чырвонымі" (хаця быццам бы яны саюзнікі), „хрысціяне" з „еўрапейцамі", „патрыёты" з „дэмакратамі". Цяжка ўява ўсім гэтым разабрацца. Адны цэлы год гаварылі, што трэба шанаваць правы, але самі яго не шанавалі, іншыя — што законы ёсць на тое, каб іх парушаць і былі больш шчырыя ў тым, што гаварылі і рабілі, чым іх канкурэнты. А ўсе гэтыя гульні былі б нават забаўныя, каб людзі мелі працу, грошы заплаціць за кватэру, а ў спажывецкую краму маглі ўвайсці не толькі, каб паглядзець на перапоўненыя прылаўкі. Лацінаамерыканская эканоміка заяўляе тут пра сваю татальную перамогу.

У нашым беларуска-беластоцкім запаведніку змоўклі бурлівыя да нядаўна спрэчкі. Не абазначае гэта, што наступіла тут нейкае пагадненне паміж „старымі" і „маладымі". Сітуацыя — найкарацей кажучы — ёсць такая, што ніхто ад нікога і нічога

*Працяг на стар. 4*

# Жнем два разы

Святы — гэта добры інтарэс. Добры, зразумела, для таго, хто мае пятую клёпку ў галаве, а сваю рэлігійнасць і святочную традыцыю разглядае таксама і ў камерцыйным аспекце. Далёка не кожнаму дадзена такое стаўленне да гэтых спраў. Але Беласток — гэта найбольшае ў нашай частцы краіны зборышча народу, таму людзей такіх не толькі не бракуе, а наглядаецца нават вялікая канкурэнцыя між імі. Беласток — месца таксама асаблівае, найбольшы ў краіне стык каталіцкай і праваслаўнай канфесій. Усё тут, пакуль што, святкуецца двойчы — падвойны таксама прыбытак для „святочных прадпрыемцаў".

У кішэні рабочага класа не так ужо і багата, таму ўзнікае на пачатку натуральнае пытанне — як тут выдушыць з чалавека той апошні грош? Адказ тут не такі і складаны. Універсальным сродкам дзеля дасягнення мэты з'яўляюцца ў грамадстве дзеці. Прыгадайма сабе, для прыкладу, удзел дзяцей у выбарчых тэлеперадачах пасобных партый. Ну, але маем жа святы. І тут усё падыходзіць яшчэ лепш. З іх і пачнем, а пазней — прыдушым дарослых.

Вялікія гандлёвыя дамы ў Беластоку, у рамках сваёй перадсвяточнай прамоцыі тавару, прымалі аказіянальна на працу Святых Мікалаяў ці Дзедаў Марозаў, якія раздавалі дзецям цукеркі ды іншыя ласункі. Момант гэты скарысталі нашы „святочныя прадпрыемцы". Пайшлі туды гуляць у тых жа Дзедаў Марозаў — нават за сабачы грош. Усё паводле капіталістычнага прынцыпу: спярша інвестыцыя, а пазней збярэм сапраўднае жніво. Пайшлі, аднак жа, не з пустымі рукамі. Раней падрыхтавалі сабе рэкламныя лістоўкі, якія тыцкалі бацькам. „Już dzisiaj pomyśl o świętach. Tylko PROFESJONALNY ŚWIĘTY MIKOŁAJ zapewni tobie i twojemu dziecku radość na święta". І яшчэ нумар тэлефона. Усё. Паралельна ж Дзеды Марозы заатакуюць яшчэ калонкі аб'яў святочных выданняў газет:

MIKOŁAJ,...
MIKOŁAJ,...
...

Цана такога Дзеда Мароза на тэлефон у пару самай высокай запатрабавальнасці даходзіць да двухсот тысяч злотых. Ці ж трэба лепш? А колькі наліжашся яшчэ са святочнага стала!

Дзеля Каляд і абслугі функцыі Дзеда Мароза арганізуецца найчасцей працоўны хаўрус некалькіх асоб, сярод якіх павінны быць прадстаўнікі абедзвюх канфесій — жнем два разы і колькі дасца! Капіталістычны прагрэс не ведае тэалагічна-дактрынальнай мяжы.

Калі ўжо прачмухаемся з паслякаляднага перапою, можна (а нават і трэба) пайсці на навагодні баль, таксама ж у грыгарыянскім і юліянскім выданнях. Выбар у Беластоку немалы і на кожную кішэню. Калі даюць шампанскае і паесці — без мільёна не падыходзь. Лепш у такім выпадку пашукаць нешта са сваім „кошычкам", за якіхсьці трыста—чатырыста тысяч за пару. Арганізатар дае залу для танца, аркестр і чым запіць. Напэўна таксама сустрэнем там сваіх безграшовых знаёмых, якія войкнуць ад здзіўлення: „Ой, і вы тут?!"

Паколькі ў гэтым годзе навагодніх баляў у Беластоку шмат, то арганізатары напэўна будуць пераганяцца як у атракцыёнах (конкурсы з узнагародамі, сюрпрызы), так і ў спосабах задавальнення гэтак званай традыцыі (сноп саломы ў куце, печанае парася на стале і г.д.)

Ой, загуляем!

**А. Максімюк**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Od 1989 r. zbudowano w Polsce setki nowych pomników. Rekordy bije Białostocczyzna. W samym Białymstoku zbudowano 7, w Bielsku Podlaskim — 3, w Hajnówce — 5.*
*(Polityka, nr 51 — 1994 r.)*

Помнікі, якія адлюстроўваюць дух новай эпохі, ставіліся перш за ўсё там, дзе большасць жыхароў — беларусы. На жаль, мы не ведаем, чаму менавіта тут такі рух у галіне будаўніцтва помнікаў. Думалі ўсяляк — можа багатыя людзі патрабуюць упрыгожыць свае вёскі і гарады новымі элементамі, а можа мясцовыя беларусы — як заўсёды — хочуць быць у авангардзе перамен. Але можа ёсць яшчэ іншыя прычыны?!

* * *

*W Polsce piękną śmierć zawsze ceniono bardziej od pięknego życia. Polacy żyją krócej niż mieszkańcy większości krajów Europy. Śmiertelność porównywalna jest tylko z Białorusią. Giniemy z powodu fatalnego stanu dróg, biedy państwa, karygodnych zaniedbań urzędników. Umieramy na własne życzenie, bez sensu i wyobraźni.*
*(Wprost, nr 51)*

Шмат асоб хоча напрасткі трапіць у рай.

* * *

*Stalin wprowadził w Polsce zakaz aborcji. W szkołach uczono o bratniej miłości między narodami, ale nigdy między kobietą a mężczyzną.*
*(Kurier Poranny, nr 270)*

Нарабіў Сталін балагану ў Польшчы. Некаторыя да сённяшняга дня гавораць выключна пра аборты. Бывала так, што Сейм перастаў займацца гаспадаркай і толькі дыскутаваў пра гінекалагічна-эратычныя справы.

* * *

*Podpisanie konkordatu przez Polskę oznacza konieczność corocznego przekazywania duchowieństwu z budżetu państwa co najmniej 2,2 bln zł.*
*(Wprost, nr 50)*

Трэба будзе зноў падняць падаткі. Рэканструкцыя „сярэднявечча" ёсць надта каштоўная. Але працяг традыцыі, на нашу думку, важнейшы, чым грошы.

* * *

*Czerpanie korzyści majątkowych z cudzego nierządu jest w naszym kraju karalne. Ogólnie znaną tajemnicą jest fakt, iż trudnią się tym tzw. agencje towarzyskie. Stawki godzinowe w tychże zakładach usługowych kształtują się w granicach 300—600 tys. Agencje zgłaszają do fiskusa obrót od 50 do 200 milionów rocznie. Po podzieleniu tego na dni, godziny pracy, po odjęciu podatku, kosztów utrzymania lokalu, telefonu, wychodzi na to, iż zatrudnione w agencjach dziewczyny pracują społecznie. Czyż to nie wzruszające. W takiej sytuacji żadnych zysków nie może osiągnąć oczywiście właściciel agencji, bo niemalże dokłada do interesu. I pomyśleć tylko, że robi to dlatego by inni nie czuli się samotni.*
*(Trybuna, nr 284)*

Ёсць яшчэ людзі, якія маюць добрае сэрца.

* * *

*1 мільярд 200 мільёнаў даляраў складае цяпер зьнешні доўг Беларусі. У асноўным — Расеі, за энераносьбіты. Толькі за газ мы вінаваты „сястры" 420 мільёнаў даляраў.*
*(Свабода, н-р 47)*

Адзін з папулярнейшых амерыканскіх акцёраў Гарысон Форд за пару гадоў зарабіў 2 мільярды долараў. („Teleprogram — Współczesna" nr 50). Фінансавая праблема дзяржавы Беларусь замыкаецца на ўзроўні праблемы сярэдняга класа амерыканскага прадпрымальніка.

* * *

*Biznes nawet tak potężny i zorganizowany jak amerykański czy niemiecki nie może działać w rosyjskim buszu, gdzie nie funkcjonuje łączność, banki, policja, medycyna, gdzie woda i prąd bywa albo nie. Trudno znaleźć ludzi do pracy w miejscu, gdzie codzienna wyprawa dzieci do szkoły niekoniecznie wiąże się z ich powrotem do domu, gdzie człowiek bez watahy goryli wokół może mieć pewność, że spotka go coś przykrego.*
*(Kurier Poranny, nr 264)*

„Россию умом не поймёшь".

* * *

*Polska jest państwem demokratycznym, nie ma problemów z mniejszościami narodowymi,* — сказаў генерал Бундэсвера Генінг фон Андарс, дарадчык міністра абароны Рэчы Паспалітай.
*(Wprost, nr 50)*

Нямецкія апекуны, таксама як раней расейкія, вельмі станоўча ацэньваюць дасягненне польскіх таварышаў.

* * *

*Prezydent dużo wydaje na kwiaty i prasę. W zeszłym roku Kancelaria Prezydenta wydała na kwiaty ponad 900 mln zł. Tyle samo kosztowała prasa. To znaczy, że prezydent dziennie wydaje 3 mln na prasę. Jest to kilkakrotnie więcej niż wydają biblioteki uniwersyteckie.*
*(Polityka, nr 49)*

Прэзідэнт любіць чытаць прэсу ў кабінеце поўным кветак.

* * *

*Пасля паездкі ў Польшчу Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. Грыб наладзіў прэс-канферэнцыю. Мячэслаў Іванавіч расказаў аб сустрэчах і перамовах праведзеных нашай дэлегацыяй у суседняй краіне. Гаворачы аб становішчы беларусаў у Польшчы і палякаў у Беларусі, спадар Грыб зазначыў, што тут, маўляў, праблем няма. Што ж, пэўна праўда. Прынамсі адносна беларусаў у Польшчы. Праблем сапраўды няма, бо і беларусаў там, бадай, таксама ўжо няма. Куды дзеліся? Асіміляваліся? Апалячыліся?*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 48)*

Пан Мячэслаў Г., як і іншыя „господа и товарищи руководящие" беларускім народам, такіх пытанняў сабе ніколі не ставілі.

* * *

*Polscy nauczyciele, którzy nie są pewni, jak rozmawiać z młodzieżą o seksie, otrzymali od Ministerstwa Edukacji Narodowej specjalne broszury. Można w nich znaleźć różnego rodzaju informacje, wskazówki i rady dotyczące tego trudnego tematu. Przykładowa informacja: „Płodność to hojny dar natury, nierzadko bywa niszczona przez środki antykoncepcyjne". Wskazówka: „Do dyskusji w klasie przygotuj kilka wycinków prasowych ze szczególnym opisem gwałtów i zboczeń seksualnych". Rada: „Kobiety powinny powstrzymywać się od prowokacyjnego zachowania, tak by mężczyźni mogli wypracować pozagenitalne formy komunikacji interpersonalnej".*
*(The Wall Street Journal Europe, nr 37)*

Праўда, што цікавая літаратура для моладзі?




Ноччу з 18 на 19 снежня 1994 года ў Свіслачанах, што каля гранічнага перахода ў Баброўніках, дайшло да **трагічнага інцыдэнту**. Чатырох салдат беларускіх пагранічных войскаў у пагоні за групай грамадзян афра-азіяцкіх краін, якія нелегальна хацелі пранікнуць у Польшчу, увайшлі на польскую тэрыторыю. Патруль польскіх пагранічнікаў імкнуўся затрымаць групу імігрантаў, але тыя разбегліся. У выніку перастрэлкі паранены быў 19-гадовы беларускі пагранічнік, які трапіў у клінічную бальніцу ў Беластоку. Пасля трэпанацыі чэрапа і выдалення левай ныркі жыццю салдата не пагражае небяспека. Міністэрства замежных спраў Польшчы прызнала гэтае здарэнне за нешчаслівы выпадак, а ўваход беларускіх салдат на польскую тэрыторыю палічыла незаконным.

**Звыш ста прафсаюзных дзеячаў „Салідарнасці"** — работнікаў установаў аховы здароўя і асветы — дэманстравалі перад Ваяводскай управай у Беластоку ў падтрымку патрабаванняў гэтага прафсаюза ў справе павышэння зарплат і ўдасканалення сістэмы аховы здароўя. Беластоцкі віцэ-ваявода **Гжэгаж Рыкоўскі**, на чые рукі была перададзена петыцыя для ўрада, сцвердзіў, што ён сам салідарызуецца з пастулатамі бюджэтнай сферы.

**Міністэрства фінансаў** заявіла, што вырашыла перадаць 2,4 більёна зл. на пагашэнне задоўжанасці шпіталяў і амбулаторый, галоўным чынам на аплату электраэнергіі і лякарстваў.

**Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку** адзначаў 50-годзе сваёй дзейнасці. З нагоды юбілейных святкаванняў адбылася прэм'ера п'есы „Фердыдурке" Вітальда Гамбровіча.

Ад студзеня да 15 снежня 1994 года **Беластоцкі ваявода даў 62 чужаземцам права на пастаяннае жыхарства ў Польшчы**, а 10 — адказаў. Пасяліцца ў Польшчы найчасцей жадалі грамадзяне: Беларусі — 25, Літвы — 6, Украіны — 5, Расеі — 5. Сярод хадайнікаў былі таксама жыхары Йемена, Сірыі, Заіра, Бразіліі, Маўрытаніі, Балівіі, Пакістана, Іспаніі, Лівана, Новай Югаславіі, Харватыі, Казахстана і ЗША.

**Цэнтральная дырэкцыя** Акруговай чыгункі пачынаючы з 2 студзеня 1995 г. уводзіць **абмежаванні ў руху цягнікоў**. У новым годзе будзе ліквідавана частка прыгарадных і міжгародніх дызельных цягнікоў. У нашым старонні абмежаванні будуць уведзены на маршрутах: Седльцы — Гайнаўка — Цісоўка, Варшава — Гайнаўка, Гайнаўка — Седльцы, Беласток — Зубкі-Беластоцкія.

**Крэйдавы кар'ер у Мельніку** мае шанц працягваць сваю прадукцыю. З прычыны задоўжанасці заводу пагражае ліквідацыя. У выніку перагавораў у Міністэрстве прамысловасці Корніцкаму крэйдаваму прадпрыемству, якому падлягае мельніцкі кар'ер, будуць прапанаваны танныя крэдыты, а ў будучым фірма будзе раздзяржаўлена.

**У Пяшчанніках**, што ў Гарадоцкай гміне, тры браты падчас п'янкі пасварыліся і пабіліся. Пацярпеўшы паражэнне брат выйшаў з хаты і неўзабаве вярнуўся з каністрай бензіна. Абліўшы гарачай вадкасцю памяшканне і братоў, падпаліў іх. У выніку будынак згарэў датла, адзін з братоў памёр, а другі з апёкамі трапіў у шпіталь. Братазабойца-падпальшчык апынуўся ў арышце.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

> Навагоднае пасланне Уладыкі Савы.

> Успаміны Юркі Баены пра святкаванні ў Мокрым.

> Размова Г. Кандрацюк з Віктарам Шалкевічам.

> Юрка Трачук даказвае ўкраінскасць, а Дар'юш Мялешка — польскасць праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Заява ў справе Чачні

Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб зрабіў афіцыйную заяву для прэсы аб сітуацыі ў Чачні: „Тое, што адбываецца ў апошні час вакол Грознага — гэта (і тут няма ніякіх сумненняў) унутраная справа Расеі. Ніхто не мае права ўмешвацца ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы. Разам з тым я шчыра перакананы, што нават такія складаныя, крызісныя сітуацыі, як у Чачні, можна і трэба вырашаць без танкаў і ахвяр. Лепш, зразумела, не трэба было запускаць праблему, але калі яна ўжо перарасла ў канфлікт, палітыкам і ваенным трэба не забывацца: стол перагавораў мацней, хутчэй і больш надзейна, чым танкавая браня, забяспечвае прыход згоды і міру".

### Рэакцыя прафсаюзаў

Не прымусіла сябе доўга чакаць рэакцыя грамадскасці на чарговае павышэнне цэн. Кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заклікала сваіх членаў правесці акцыі пратэсту супраць масавага збяднення людзей. „Мінімальная зарплата страціла эканамічны сэнс, — гаворыцца ў заяве ФПБ. — Сёння яе памер пакрывае менш за дзесяць працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту". Кіраўніцтва ФПБ запатрабавала ад урада рэалізацыю прапаноў прафсаюзаў і прыняцце канкрэтных мер па карэкціроўцы эканамічнага курсу дзеля сацыяльнай абароны працоўных.

### Запрашэнне для лідэра апазіцыі

Старшыні Беларускага народнага фронту Зянону Пазьняку перададзена запрашэнне брытанскага ўрада наведаць Вялікабрытанію з афіцыйным візітам. Лідэр парламенцкай апазіцыі наведае Лондан пасля Новага года. У праграме візіту — сустрэчы з палітыкамі і дзяржаўнымі палітычнымі дзеячамі.

### Новыя „губернатары"

У Гродне прайшла нечарговая сесія Абласнога савета дэпутатаў. На ёй разглядалася арганізацыйнае пытанне аб выбары старшыні аблвыканкама. Па прапанове прэзідэнта А. Лукашэнкі сесія зацвердзіла на гэтай пасадзе Аляксандра Дубко, які да гэтага часу працаваў старшынёй калектыўнага сельскагаспадарчага прадпрыемства „Прагрэс" Гродзенскага раёна. На падобнай сесіі ў Брэсце старшынёю аблвыканкама выбраны Уладзімір Заламай — дагэтуль міністр па справах Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

### Прэм'ер прыедзе ў Польшчу

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько прыняў паўнамоцнага і надзвычайнага пасла РП Альжбету Смулэк, якая перадала запрашэнне прэм'ер-міністра сваёй краіны Вальдэмара Паўляка прэм'ер-міністру Беларусі Міхаілу Чыгіру наведаць Польшчу ў пачатку 1995 года. У часе гутаркі бакі выказаваліся за ўмацаванне эканамічных і культурных сувязей дзвюх краін. Абмяркоўваліся таксама пытанні дзейнасці консульстваў Польшчы ў Гродне і Брэсце ды іншыя пытанні, якія маюць узаемную цікавасць.

### Польска-беларускія дагаворы

У Брэсце былі абмеркаваны новыя напрамкі ўзаемавыгаднага партнёрства Польшчы і Беларусі. У горадзе над Бугам адбылася сустрэча міністраў знешнеэканамічных зносін Беларусі — Міхаіла Марыніча і Польшчы — Лешка Падканьскага. На чарговым пасяджэнні змешанай камісіі па гандлёваму і эканамічнаму супрацоўніцтву прынята рашэнне па канкрэтных праграмах, што ўяўляюць узаемную цікавасць для абодвух бакоў.

Супрацоўніцтва ў галіне падрыхтоўкі ваеннаслужачых, выкарыстанне баявой тэхнікі і культурна-выхаваўчай работы прадугледжвае план кантактаў паміж міністэрствамі абароны Польшчы і Беларусі. Яго ў Варшаве падпісалі намеснікі міністраў абароны дзвюх краін — Ежы Мілеўскі і генерал лейтэнант Леанід Мальцаў. Адбыліся перагаворы наконт удзелу Беларусі ў праграме „Партнёрства дзеля міру".

### Трывожная доля спартсменаў

Жыццё і бяспека вядомых лёгкаатлетаў выклікаюць сёння сур'ёзную трывогу. Зусім нядаўна былі абрабаваны кватэры алімпійскіх чэмпіёнаў — Марыны Лобач і Віталя Шчэрбы. Падвергся нападзенню і крадзяжу трохразавы чэмпіён Еўропы Віталь Пляснік, украдзены асабістыя аўтамабілі ў шасціразавага чэмпіёна свету Ігара Жалязоўскага, трохразавай алімпійскай чэмпіёнкі Таццяны Самусенкі. 30 лістапада мінулага года быў па-зверску забіты консультант Дзяржаўнага камітэта па спорце Ігар Пандашоў. Група вядомых спартсменаў накіравала пісьмо-пратэст Генеральнаму пракурору РБ, міністру унутраных спраў і памочніку прэзідэнта па асобых даручэннях з патрабаваннямі разабрацца па ўсіх фактах насілля і прыняць меры па бяспецы спартсменаў.

### Заклік да міласэрнасці

З просьбай дапамагчы малазабяспечаным грамадзянам набыць цёплую вопратку звярнуліся да грамадзян Оршы Гарадскі выканаўчы камітэт, Таварыства чырвонага крыжа і Цэнтр міласэрнасці. У горадзе сёння нямала людзей, што жывуць на мінімальную пенсію — 32 тысячы рублёў (4 долары).

# Чар Палесся ў сучасных замалёўках

Каб дабрацца з Беластока ў Клюковічы, трэба з'ехаць добрую палову Беласточчыны. Дзве з паловай гадзіны ў Сямяцічы, адтуль яшчэ 48 кіламетраў. Урэшце, калі ўжо сяджу ў аўтобусе Сямяцічы—Вычулкі, пачынаю сумнявацца ці еду ў добрым напрамку. Мелі быць палескія мясціны, а тут усе размаўляюць выключна па-польску. Прыслухоўваюся як „Іваны ды Любы" размаўляюць аб надвор'і і здароўі. Урэшце адкрыццё!

— Ны, тулькі вам нэ заплатымо, — упіраюцца кавалеры. Са зместу размовы раблю вывад, што вязуць яны „ў госці" размаляваныя дзеўкі з-за ўсходняй мяжы. У Нурцы-Станцыі таксама сюрпрыз. Быццам чары хто якія кінуў. Калі з аўтобуса выйшлі пяць—шэсць чалавек, усе пачалі гаварыць на сваім палескім дыялекце. Аж загудзела з гэтай нагоды. Пазней толькі павучаць мяне мясцовыя жыхары, што ў Нурцы-Станцыі многа палякаў і там „па-свойму" гаварыць не трэба.

— Paniusia to daleko tak jedzie? — не вытрымаў падхмелены дзядзька і давай мяне загаварваць.

— У Клюковічы, аж.

— Каб ты за Сталіна туды ехала, то адразу арыштавалі б як шпіёна.

— Я з „Нівы", — рассакрэчваю ўрэшце загадку.

— О, „Ніву" мы ўсе падпісвалі за камуны. Цяпер не да чытання. У мяне, на той прыклад, мільён сто рэнты. Пражыць можна, але не разжывешся. Здароўя, найгорш, няма, — прызнаецца сядзячая побач цётка.

— У „Володьковых" по тры мільёны бэруть рэнты. Такія то пожывут, — інфармуюць зайздросна мае субяседнікі.

Уся энэргія, што яшчэ б'ецца з гэтых жывых, некранутых цывілізацыяй крыніц, ідзе на самую галоўную ісціну жыцця — перапрываць. Мінаем пастарэлыя пустыя вёскі — Нурэц-Вёску, Тымянку, Літвінавічы. Дзенідзе змучаныя хваробамі і доляй, знясілены людзі. Аўтобус трасецца на брукаванай шашы. Па баках свежыя каляіны, сляды несмяротных фурманак. Уражвае таксама вялікая колькасць старых прыдарожных крыжоў. Здавалася б, забытая старонка. Аднак памыляюся.

— А нас то ўжо украінцамі парабілі, — пачынае дзядзька. —Прыйшло такіх двух у нашу вёску, адзін вусач, а другі такі байкаваты і пытаюцца па-хатах: „Хочэтэ, коб булы украіньскі пэрэдачы ў радыві". А мне што да вас, хай сабе будуць, кажу ім. За тыдзень прыязджае да нас хлопец з Бельска і ўгаворвае, што мы ўкраінцы, бо падпісаліся за роднае слова ў эфіры. А тут раней і не чулі пра ўкраінцаў. Усе мы тутэйшыя і ўсё!

На дзядзькавы словы многія падтакваюць галавой, нават шафёр.

— Калі большасць паверыла ў сваю „польскасць", чаму не паверыць ва „ўкраінскасць", заўсёды то нешта новае, — дадае шафёр.

Урэшце ў Клюковічах. Раней была тут шматлюдная гмінная мясціна. Як сімвал тутэйшага капіталізму прыкмячаю ларок-забягалаўку, адраманатаваны з рабочага вагона магазінчык. Ля школы заходняя машына. Усё іншае па-старому — магазін, асяродак здароўя, пошта, школа. Далей, за вёскай, віднее зруйнаваны шляхецкі двор. Побач стогадовыя ліпы і клёны ды хмара варон. У вёсцы сёння зрух. Якраз лекар з Мілейчыц прымае хворых. Наведвае ён Клюковічы тры разы ў тыдзень. Навокал быдынка фурманкі.

— Што чуваць у вас добрага? — пытаюся ў чакаючых лекара цётак.

— Цяпер холадна і нічога не чуваць. Як цёпла то панапіваюцца і крычаць на ўсю вёску, — горка іранізуюць жанчыны.

Многія хаты стаяць пустымі. Самай жывучай аколіцай ёсць тут хутар. За часоў Пілсудскага пасяліліся ў ім жаўнеры, што змагаліся за Польшчу.

— Там, дзе большасць праваслаўных у вёсках, жывуць згодна, — інфармуюць жыхары і пасняюць нурэцкую загадку.

У вёсцы афіцыйнай мовай з'яўляецца палескі дыялект. Не абавязвае гэта маладога пакалення. Здаецца, што і на ўкраінцаў яны не разлічваюць.

— Гэндэ во, глянь, як їх плякат выскрэбалі, — паказваюць на астаткі афішы „Підляскуй осені".

У школе 46 вучняў. Тут, як нідзе ў наваколлі, навучаецца беларуская мова. Энтузіязм вучняў да гэтага прадмета не меншы, чым у Гарадку. Іншая справа, што вучацца яе нямногія. У школе толькі 26 праваслаўных. Дырэктар, Анна Міткевіч, па прафесіі беларусістка. Яе старанні перамаглі навакольныя тэндэнцыі.

— Ці мова гэта ў нас перапрывае, цяжка сказаць, — сумнявецца спадарыня Міткевіч. — Дзеткі, якія прыйдуць у нулявыя класы, пераважна з каталіцкіх сем'яў. Амаль усе „тутэйшыя" паўцякалі ў гарады.

— Трэба ўвесь час людзям напамінаць пра нашыя святасці. Усё заміраe. За 50 гадоў нікога тут ужо не будзе, — гаворыць айцец Міраслаў Аўксецяюк, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Такарах. Бацюшка навучае таксама рэлігіі.

Такары — незвычайнае месца. Ля царквы выплывае крыніца са святой вадой. Напамінае яна гайнаўскую „Крыначку", дарэчы так і называецца, і таксама спраўляюць багаслужбы ў трэці дзень Св. Тройцы. Тут сустракаюцца суродзічы, якіх падзяліла польска-беларуская мяжа.

Сёння ў Такарах толькі 15 праваслаўных сем'яў. А вёска цягнецца на 1,5 кіламетра.

Варта адзначыць, што ў 1881 годзе ў Такарах нарадзіўся Усевалад Ігнатоўскі, класік беларускай гісторыі, аўтар „Кароткага нарысу гісторыі Беларусі". Кніжка завандравала сёння на радзіму. Тут сустрэлі яе са здзіўленнем, але і з энтузіязмам.

— Калі пачалося навучанне ў школах рэлігіі, ментальнасць моладзі крыху змянілася. Цешыць, што дзеці прыходзяць у царкву, яны нават прыводзяць бацькоў з сабою. І гэта дадае надзеі, — закончыў айцец Міраслаў Аўксецяюк.

* * *

Палескае падарожжа паказалася мне сентыментальнай карцінай. Восеньскі сонны дзень мільгануў, быццам тыя прыдарожныя царкоўкі-прыгажуні. Астаўся таксама востры боль душы. А ў Беласток яшчэ 5 гадзін аўтобусам.

**Ганна Кандрацюк**




## На Новы год

На парозе Новы год.
Стары — ва ўспамінах.
Пойдзем мы далей ў паход
Гарамі, далінай...
Перашкодаў будзе шмат,
Ведай, друг-айчыннік.
Для мяне ты — родны брат,
Верны і падзвіжнік.
Ведай, што ты — беларус,
Як я і другія.
Ну а „Ніва" для нас — „плюс".
Не страшны сілы ліхія.
Больш любіць і шанаваць
Нам родную мову.
Вышэй яе падымаць,
І сэрцы адновіць.
Дзетак ў школу пасылаць
На ўрок роднай мовы,
Кніжкі родныя чытаць
І пісаць у „Ніву".
Згуртуймася ў Новы год
У адной сям'і.
У свабодзе наш народ.
Божа, нам багаславі.

**Мікалай Панфілюк**

## Перад святам

Зайшоў я ў лес
Перад святам,
Паглядзець елкі.
Няхай зялёна будзе Хата!

Як глянуў,
Елкі абнімаліся.
Як стаў сячы,
Елкі застагналі.
Пакінуў,
Елкі засмяліся.

Зайшоў я ў краму
Перад святам,
Паглядзець ёлкі.
Няхай зялёна будзе Хата!

**Раман Ярмоцік**




**Szanowna Redakcjo!**

Nas, nauczycieli Szkoły Podstawowej Nr 6 w Hajnówce oburzył artykuł, jaki ukazał się w 48 numerze „Niwy" na temat uroczystego przekazania do użytku budynku naszej szkoły. Z racji wykonywanego zawodu jesteśmy ludźmi tolerancyjnymi, tak w stosunku do siebie, jak i powierzonych naszej opiece uczniów. Do wszystkich odnosimy się jednakowo serdecznie i ze zrozumieniem. Niesłychanie zbulwersował nas dokonany przez redaktorkę Waszej gazety podział nauczycieli wg kryterium wyznaniowego (na jakiej podstawie?!). W kraju, w którym obowiązuje wolność sumienia i wyznania gwarantowana prawem, takie naciski z zewnątrz są wręcz niedopuszczalne i mogą budzić jedynie oburzenie.

Jesteśmy gronem młodym, tak pod względem stażu pracy, jak i 3-miesięcznego pobytu w nowej szkole. Zależy nam bardzo na dobrej współpracy wewnątrz szkoły, jak i ze wszystkimi ludźmi, którzy dobrze życzą dzieciom, a takie podziały niepotrzebnie nas różnicują.

W naszej szkole zostały stworzone wszelkie możliwe warunki do nauki języków obcych oraz języka białoruskiego. To rodzice decydują o tym, na jaki język ma uczęszczać ich dziecko. **Mają wolny wybór** i nie należy wywierać na nich żadnych nacisków. Nie sięgajmy do **wzorów z poprzedniego ustroju**, gdy nauka języka była narzucona.

Życzylibyśmy sobie, żeby w przyszłości redaktorzy Waszej gazety nie wprowadzali niepokoju do naszego grona.

**Z poważaniem**
**Nauczyciele**
**ze SP Nr 6 w Hajnówce**
*(ліст без подпісаў; вылучэнні зроблены рэдакцыяй)*

**Ад рэдакцыі:**

Мы не пераканаи ў тым, хто тут больш набліжаны ў сваіх поглядах „да ўзораў папярэдняга ладу". Менавіта 17 лістапада 1962 г. Міністэрства асветы выдала распараджэнне, якое адмяніла абавязак навучання роднай мове беларускіх дзетак. Такія „льготы" ніколі не прымяняліся ў адносінах да апошніх вучняў. 22 лютага 1971 г. быў уведзены прынцып „поўнай добраахвотнасці вывучання беларускай мовы". Справа заключалася ў тым, што бацькам быў уведзены абавязак кожны год прыносіць пісьмовую заяву, у якой давалася згода на тое, каб дзіця наведвала ўрокі беларускай мовы. Як бачна, бацькі мелі і „маюць свабодны выбар".

## Рэкламны кашмар

Час ад часу пераключаю свой тэлевізар на Мінск. Праўда, беларускую праграму не лічу надта цікавай, але усё ж такі часам знаходжу ў ёй нешта для сябе. Люблю таксама паглядзець добры фільм. Ужо нават звыкся з рускамоўнымі дыялогамі ў беларускім усё ж тэлебачанні! На жаль, не магу ў сваю чаргу перанссці ідыятычнага перарывання фільмаў рэкламамі! Вельмі часта здараецца нават і так, што глядзіш фільм і ў нейкі момант губляеш ягоную сюжэтную ніць. Часам толькі праз некалькі хвілін зарыентуешся, што гэта не фільм якраз ідзе, а рэклама.

Што б дрэннага не сказаць пра Польскае тэлебачанне, але на такія прыёмы яно сабе не дазваляе. Фільм (і іншыя мастацкія творы) гэта прадуманая, зачыненая творцам або творцамі, праца. Усякае ўмяшанне ў яе канструкцыю парушае аўтарскую думку. У большасці дзяржаў свету аўтарскія правы ахоўваюцца адпаведнымі законамі. У Рэспубліцы Беларусь, відаць, гэткае штосьці адсутнічае. А шкада! Зрэшты, калі б і не было такіх законаў, думаю, павінен тады ўсё такі абавязваць маральны наказ пашаны для другога чалавека наогул. У гэтым ліку, зразумела, і для аўтараў розных твораў, а заадно і для гледачоў.

А сваёй дарогай, ці кіраўніцтву Беларускага тэлебачання ніхто з жыхароў Беларусі дагэтуль не звярнуў увагу на закранутую праблему? Сумняваюся!

**П. Байко**

# Адкуль узнікла слова стол?

Хутчэй за ўсё ад дзеяслова **ставіць**. Бо ў даўнія часы сям'я ўсаджвалася на траве ці долу ў хаце перад расцеленым абрусам, на які ставіліся розныя стравы. Месца, якое было прызначана, каб ставіць стравы, і называлася **стол**.

Пасля, каб было зручней, гэтае месца прыўзнялі на падпоркі (ножкі) і назвалі сталом, а ўсе члены сям'і ўсаджваліся каля яго на лавы. Так утварылася **застолле**, месца для прыёму ежы, для частавання гасцей ці проста для бяседы, каб пасядзець ды пагамаміць. Засцілалі стол кавалкам палатна, які называлі **настольнікам**. Пад'еўшы і сабраўшы посуд са стала, на ім пакідалі толькі хлеб, які прыкрывалі тым жа настольнікам.

Гаспадар садзіўся на пачэсным месцы адзін, як бы прад (перад) сталом. Адсюль узнікла слова **прастол**, як называлі адмыслова зробленае і багата прыбранае сядзенне для старэйшага ў родзе гаспадара, правадыра, князя. Горад, у якім жыў князь, дзе знаходзіўся яго прастол (трон), пачаў называцца стольным горадам або **сталіцай**.

Ішлі гады, а слова **стол** прымала на сябе ўсё новыя значэнні. Увесь набор ежы, пачастункаў таксама займеў назву **стол**. Потым стаў тым месцам, за якім сядзелі службоўцы ў розных канторах, установах, дзе афармляліся важныя паперы, даваліся ўсякія даведкі. Гэтае месца таксама называлі сталом з пэўным азначэннем — Стол даведак, Стол рэгістрацыі, Стол выдачы, Стол заказаў. У вялікіх гарадах з'явіўся Адрасны стол. Ён існуе і цяпер, у ім можна дакладна даведацца дзе жыве той ці іншы чалавек, грамадзянін горада. Абавязковай прыналежнасцю вялікіх гарадоў стаў Стол знаходак, куды прыносяць забытыя ў гарадскім транспарце рэчы, пакупкі, каб іх можна было вярнуць няўважліваму чалавеку-разяваку.

Адно толькі слова **стол**, а як яно ў слоўніках абрасло цэлым гняздом утвораных ад яго новых значэнняў. Месца, куды можна зайсці, каб пад'есці, назвалі **сталоўкай**. А сам працэс прыёму ежы стаў называцца словам **сталаванне**. Набор мэблі ў тым ці іншым пакоі прывёў да ўзнікнення слова **абсталяванне**, якое неўзабаве набыло шырэйшы сэнс — забеспячэнне прыладамі, інструментамі, механізмамі, мэбляй цэлага прадпрыемства ці ўстановы. Нарадзілася нават самабытнае беларускае слова асталявацца, што значыць пасяліцца дзе-небудзь, асесці на новым месцы жыхарства ці працы.

**Ясень**

# Як калісь шляхта выпівала

Пачаўшы з каталіцкіх Калядаў ажно да праваслаўнага Шчодрага вечара на Беласточчыне звычайна доўжыцца банкетны марафон. Жыхары нашай зямлі п'юць з захапленнем, у чым не ад сёння дакараюць іх староннія наглядальнікі. Мы, беларусы, патомныя сяляне, маем прынамсі на каго скінуць адказнасць за стан нашых галоў. Вядома, распіла нас шляхта.

Любоў да чаркі ўсё-такі настолькі ўсеабдымная, што шляхта, пакуль узялася распіваць сваіх мужыкоў, спярша сама распілася, ды, як навучае гісторыя, прапіла сваю дзяржаву — Рэч Паспалітую.

Звычаі грамадзян Рэчы Паспалітай на схіле яе дзён апісаў кнёндз Енджэй Кітовіч. Вось як паводле яго пілі „старыя палякі".

Найперш гаспадар, пасля мясной закускі, наліваў кілішак віна і піў ім за здароўе ўсіх, хто сядзеў за сталом, пачаўшы ад найбольш паважанай асобы ажно да апошняй. Называючы кожную асобу, прытыкаў кілішак да рота і адымаў. Толькі назваўшы апошняга, глытаў крышку, або і ўсё, ды ставіў кілішак.

У гэты самы момант, як гаспадар назваў першага госця, той браўся за кілішак і ўставаў. Такім самым чынам піў здароўе ўсіх называных далей гаспадаром. Калі так усе пілі за здароўе ўсіх, падымаўся гоман „быццам бы народ гаварыў за плябанам агульную споведзь". Пасля кароценькага перапынку пілі далей з малых кілішкаў аж да другой стравы. Толькі вялікія п'яніцы не чакалі другой стравы і загадвалі падаваць вялікія келіхі ўжо пры першай.

Звычайна, толькі папрабаваўшы другую страву (смажанае мяса), гаспадар клікаў, каб яму даць вялікі келіх і піў стоячы за здароўе самага значнага госця, за ім наступных, паводле рангу. Як названы госць, так і ўсе прысутныя ўставалі кожны раз і выпівалі свае келіхі. Тое ўставанне і сяданне было настолькі цяжкім, што некаторыя слабелі ад гэтага нават яшчэ акуратна не выпіўшы.

Выпіўшы за здароўе значнейшых, пачыналі піць за менш значных агульнымі „класамі": іхмосцяў дам, іхмосцяў духавенства, іхмосцяў вайскоўцаў, прасветнай палестры (юрыстаў), а на канец, каб нікога не пакрыўдзіць, усёй кампаніі. Хто не асцерагаўся, мог упіцца не ўстаючы ад стала. Іншым давалі яшчэ „на штэмпель", быццам прыпіваючы тое, што выпілі за сталом.

Калі гаспадар быў спакойны, можна было прыхавацца ад чарговых келіхаў. Калі, крый Божа, папаўся гаспадар, які любіў выпіць ды іншых напаіць, тады не было ратунку. У некаторых паноў лёкаі, гайдукі і іншыя служкі мелі загад раз назаўжды пільнаваць, каб кожны меў поўны келіх. Калі госць хаваў келіх за сябе або падымаў уверх, каб пазбегчы дабаўкі ад настойлівага суседа, за яго спіною ўжо пільнаваў служка з пляшкай. Сунуў госць келіх пад стол, а там яго толькі і чакалі іншыя служкі. Як не круціўся небарака, мусіў піць так доўга, пакуль кампанія не заўважыла, што ідзе да вяртання выпітага, або некім іншым не занялася.

Бывала, калі хто да дзірак напіўся, што горла яму пускала, тады страляў як з пажарнай помпы ў асобу, якая сядзела насупраць. Бывала, такі нешчаслівец нават даму абліў „пахучым спіртам" па твары і грудзях, але ніхто гэтым не пераймаўся. Нездаровы з рэшткай „эксгаляцыі" ўцякаў як найхутчэй за дзверы або ў кут, дама таксама хутка прыводзіла сябе ў парадак недзе збоку. Хаця падобныя прыгоды віталі смехам, вінаваты ўжо не меў пашаны ў кампаніі. Або да яе не вяртаўся, або перасядаўся на іншае месца.

Калі падняліся з-за стала і былі танцы і забавы, п'янства крыху прыпынялася. У іншым выпадку пілі далей. Калі нехта з гасцей меў досыць і стараўся знікнуць, яго даганялі і вярталі, або прымушалі піць у карэце за здароўе дам, гаспадара і гаспадыні ды цэлай кампаніі. Такім чынам госць, які падчас банкета не паваліўся з ног, траціў прытомнасць пры развітанні.

Якраз і гэта было ўсёй мэтай падобных прыёмаў. Самай вялікай радасцю для гаспадара было слухаць расказы сваіх служак аб тым, што ніводзін з гасцей цвярозы не адышоў: хто пакаціўшыся ўсе сходы змераў, хто каму морду набіў, каго іх нежывога дахаты панеслі, а хто, паслізнуўшыся, упаў у гразь ды да таго зуб сабе аб камень выбіў.

З ліку звычайных грамадзян вылучаліся слаўныя ў цэлай Кароне і Літве п'яніцы. Самым вялікім п'яніцам на Беларусі быў Караль Радзівіл „Пане Каханку". Напіўшыся, рабіў вар'яцкія жарты. Самы здзеклівы „жарт" зрабіў свайму сябру Пацу. Аднойчы Радзівіл так уеўся Пацу, што той пагразіў яму паядынкам. Радзівіл загадаў тады закаваць Паца ў кайданы і кінуць у турму. На другі дзень загадаў адзець Паца ў смяротную кашулю і вывесці яго на плошчу ў суправаджэнні ката і ксяндза. Дарма супольныя сябры прасілі дараваць жыццё Пацу. Радзівіл паганяў Паца, каб той клаў галаву пад катаўскі меч. Нарэшце, калі Пац папрасіў яшчэ момант, каб выправіць споведзь, Радзівіл кінуўся да яго са смехам: „Дык бачыш! Я цябе лепш запалохаў, чымся ты мяне паядынкам!" Павёў Паца, які надалей заставаўся ў смяротнай кашулі, на пакоі. Пачалося страшэннае п'янства ў гонар так выдатнага жарту. На трэці дзень Пац ад усяго гэтага памёр. Гэта называецца „піць насмерць".

Радзівіл піў усё, нават брагу. Раніцай ратаваўся, з'ядаючы поўную міску квашанай капусты. Калі трэба было выцверазець, ішоў у капліцу, там гадзіну або і больш спяваў „гадзінкі", „ружанец" і іншыя набожныя песні. Ад свайго вішчання цверазеў.

Выпіць любіла і яго сястра — князёўна. Аднойчы афіцэры князя пілі, а князёўне віна даць не хацелі і сказалі, што ўжо віна немашака. Тады князёўна прынюхала, што ў шафе ёсць два бутлі, дык прыйшла з сякераю, сама шафу адбіла і трыумфальна панесла віно.

Вядома, не кожны мог піць так, як Радзівілы, бо гарэлка была дарагая, а самагонку яшчэ наш народ не ведаў. У праслаўленую саксонскую эпоху сярэдні шляхціц выпіваў каля 20 літраў гарэлкі ў год, а сяляне ўсяго 3 літры. Мы, іхнія нашчадкі, выпіваем больш за 20 літраў на душу ў год. Нарэшце зраўняліся мы з панамі-шляхтай.

На здароўе!

**Алег Латышонак**

# МІНУЛАГОДНІЯ МАРЫ

*Працяг са стар. 1*

не хоча, а кожны, паводле сваіх сіл і магчымасцей, робіць сваё. Не зашмат аднак робіцца, з увагі на тое, што ў капіталізме кожная дзейнасць патрабуе грошай, якіх не мае ніводная беларуская арганізацыя. Нават сход цяжка было сарганізаваць кіраўніцтвам некаторых суполак, з увагі на высокія кошты падарожжа ўдзельнікаў у Беласток з Бельска, Гайнаўкі, Варшавы, Гарадка, не гаворачы пра Гданьск ці Ольштын.

Дзяржаўныя ўлады дайшлі ў мінулым годзе да вываду, што калі беларусам патрэбна нейкая культура ці літаратура, хай тады сабе яе арганізуюць, але за свой кошт. З іх падаткаў будзе фінансаваная культура больш „дворская", „еўрапейская". Нішто не паказвае на тое, што ў 1995 г. штосьці зменіцца.

З гэтай палітыкай паралельна ішоў працэс пашырэння нацыянальнага нігілізму. Цяжка цяпер спаткаць беларуса ў Беластоку. Нават у царкве ў большасці моляцца ўжо палякі. Жменька беларускай інтэлігенцыі, пазбаўлена падтрымкі грамадства, магла толькі біць галавою ў мур абыякавасці. Так пэўна будзе і ў „Новым годзе", бо такі наш нацыянальны лёс і характар, а мы не хочам яго змяняць. Любім сваё ўласнае адлюстраванне. Такая самазадаволенасць... Але нагул не было так дрэнна, каб зусім апускаць рукі. Спявалі і танцавалі, здаецца, не менш, чым у мінулых гадах. Апрача традыцыйных ужо фестываляў фольк- і рок-музыкі, з'явіўся новы — „Бардаўская восень". Побач закаранелай ужо публіцыстычнай творчасці — з'явілася навуковая. Былі горшыя перыяды ў жыцці беларускага грамадства на Беласточчыне. А нам трэба толькі думаць, што перад намі лепшы час. Марыць заўсёды можна.

**Яўген Міранавіч**

## НАШЫ КАРАНІ

### LXXIV. Напярэдадні берасцейскага сабора

Нованавернутыя уніяты (а фактычна — каталікі) везлі з сабою з Рыма некалькі дзесяткаў пасланняў і загадаў папы рымскага для польскага караля, епіскапата, да уніяцкага мітрапаліта і духавенства. У іх кароль і каталіцкія іерархі абавязваліся да ўсебаковай дапамогі уніятам, а мітрапаліту Рагозе загадвалася склікаць агульны сабор біскупаў, каб *кожны з іх вызнаў перад публічным сходам каталіцкую веру... і няхай кожны выкажа ўрачыстае абяцанне падданства для нас і Апостальскай сталіцы*. Папа не даваў цалуючым яго па ботах неафітам і запатрабаваў пацверджання пісьмовага вызнання гэтага падданства, наказваючы: *прышліце нам пісьмовы дакумент, адпаведна пацверджаны і пасведчаны, каб ён назаўсёды знаходзіўся ў нашых архівах як доказ нашчадкам пра ваша навяртанне ў каталіцкі Касцёл.*

Кароль, каталіцкія і уніяцкія іерархі, езуіты трыумфавалі, правілі падзячныя набажэнствы ў касцёлах, спявалі „Te Deum". Аднак радасць аказалася заўчаснай, бо вось на варшаўскім вальным сейме ў сакавіку—маі 1569 г. паслы склалі пратэсты, у якіх яны згодна дамагаліся ў караля пазбаўлення годнасці і правоў біскупаў Пацея і Тэрлецкага. Сенатар князь Астрожскі дамагаўся, каб іх паставілі перад трыбуналам за здраду дзяржавы. Паслы ж на чале з князем Друцкім-Горскім, заявілі, што *яны і ўвесь рускі* (г.зн. украінскі і беларускі) *народ за гэтую здраду не прызнаюць Іпація і Кірылу епіскапамі, а праваслаўныя паны не пусцяць іх у свае ўладанні.* Падобныя пратэсты склалі таксама беларускія і ўкраінскія гарады.

На пратэсты кароль адказваў праследаваннямі, каталіцкі клір узмоцніў прапаганду ў абарону уніі. Асабліва шчыраваў П. Скарга, які стаўся самым заядлым ворагам праваслаўя.

На Украіне і Беларусі зноў успыхнулі прыціхлыя было народныя паўстанні, цяпер галоўным чынам у абарону свае праваслаўнае веры, супраць уніі. Кароль кінуў на іх узброеную па зубы армію гетмана Жулкеўскага. Яна пацыфікавала ўкраінскія і беларускія землі, сёлы і мястэчкі, пакідаючы пасля сябе пажарышчы і трупы. Схопленым кіраўнікам паўстанцкіх атрадаў адрубалі галовы, а правадыра Налівайку ў Варшаве на кастры спалілі жывуцом. Задушыўшы зброяй і праследаваннямі ўсялякі супраціў, кароль Зыгмунт III Ваза згодна з наказам папы абнародаваў універсал пра адзінства праваслаўнай Царквы з каталіцкім Касцёлам. *Мы пераканаMы*, — сцвярджаў у ім манарх, — *што вы самі* (г.зн. праваслаўныя), *калі добра падумаеце, не знойдзеце сабе нічога болей карыснага, важнейшага і радаснага, як святое задзіночанне з каталіцкім Касцёлам, які ўстанаўляе і ўмацоўвае паміж народамі згоду і ўзаемную любоў.* У бязмежным фальшы гэтых слоў неўзабаве пераканаліся на сваім трагічным лёсе мільёны праваслаўных жыхароў Рэчы Паспалітай.

У гэтым жа універсале Зыгмунт III наказаў мітрапаліту Рагозе склікаць у Бярэсце сабор *каталікоў Касцёла рымскага і Царквы грэцкай, якія да гэтага адзінства належаць* (г.зн. уніятаў), затое *праваслаўныя* **могуць** *прыбыць на сабор, але ў невялікай колькасці і без натоўпу.* Праз некалькі тыдняў Рагоза адкрыта аб'явіў, што склікае на 6 кастрычніка сабор, каб *выслухаць і падпісаць устаноўленую* ўжо унію, г.зн. без якіх-колечы над ёю разважанняў і дыскусій. З гэтага ясна вынікае, што унію епіскапы-адступнікі жадалі зацвердзіць без удзелу праваслаўных. Таму праваслаўная грамадскасць на чале з князем Астрожскім наперакор усяму рашыла прыняць удзел у саборы і згодна патрабаванням тагачаснага права на земскіх сейміках і ў гарадах выбрала сваіх паслоў ды старанна падрыхтавалася да ўдзелу ў яго працах.

Падборам дэлегатаў на каталіцкауніяцкі сабор заняўся сам кароль. Ён накіраваў з Вялікага княства Літоўскага канцлера Льва Сапегу, падскарбія і земскага пісара Дзмітра Халецкага, ваяводу троцкага Мікалая Радзівіла — усе яны нядаўна перайшлі ў каталіцызм. Епіскапат рымска-каталіцкага Касцёла выслаў на сабор яго найбольшага энтузіяста і натхніцеля — біскупа луцкага Бернарда Мацяеўскага, арцыбіскупа львоўскага Дымітра Скалімоўскага, прыбылі легаты папы рымскага, а таксама езуіты П. Скарга, Ю. Рэўт і М. Лятэрна. Колькасна лацінска-каталіцкі бок быў удвая большы за каталіцка-уніяцкі, які прадстаўлялі пяць біскупаў з мітрапалітам і некалькіх архімандрытаў. Ні ў каталікоў, ні ў уніятаў не было ніводнага прадстаўніка ад народа.

Праваслаўнае прадстаўніцтва на саборы было кананічна паўнапраўнае. Праваслаўная грамадскасць выбрала і накіравала ў Бярэсце: ваяводаў кіеўскага і валынскага князёў Канстанціна і Аляксандра Астрожскіх, стольніка валынскага Андрэя Багавіціна, наваградскага каштэляна Аляксандра Палубінскага, суддзяў уладзімірскага Паўловіча і луцкага Чапліча, шматлікія дэлегацыі ад брацтваў: ад віленскага 8 чалавек, бельска-падляшскага — 5, львоўскага — 3, апрача таго прадстаўніцтвы баяраў (г.зн. шляхты) і мяшчанаў з 15 акругаў з беларускіх і украінскіх зямель, у іх ліку з пінскага, берасцейскага, мінскага і слуцкага. Яшчэ болей прадстаўнічай была дэлегацыя праваслаўнага духавенства: епіскапы пярэмышльскі Міхаіл Капысценскі, львоўскі Гедэон Балабан, экзархі патрыярхаў канстанцінопальскага Нічыпар, александрыйскага Кірыла, мітрапаліт бялградскі Лука, Макар і Мацей — архімандрыты манастыроў на св. Гары Афон, дзевяць архімандрытаў з Рэчы Паспалітай, адзін ігумен, шаснаццаць протаіерэяў, больш за дзвесце чалавек парафіяльнага духавенства. Такім чынам гэтае прадстаўніцтва было па ўзору і прыкладу першых хрысціянскіх сабораў. Усе мелі паўнамоцтвы ад сваіх выбаршчыкаў, наказы ад парафіян, што неабходна адкінуць *новую веру* (г.зн. унію) і застацца пры *старых звычаях і праўдах св. усходняй Царквы* і патрыярху канстанцінопальскаму.

**Мікола Гайдук**

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 420*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*


*Юрка Зубрыцкі*

### Няменне

Як даўні сон
растварыліся словы,
у вырай з птушкамі
адплылі.
У аблоках завязнуць
застылых, бяздомных,
ці вернуцца
ў подыху новым
вясны?
Пачуцці?
Што з імі?
Прытулку шукаюць
на сцішаных беллю
прасеках жыцця.
А вера гарачая
адплыла, адмаячыла,
далечынь толькі цепліцца:
— Вернецца, вернецца ...
Каго я чакаю —
на завароце
інсе бяроза,
чарнее крыж.
І на душы
туга нямая.
З яе не выбрацца,
не ўцячы.

*Барыс Руско*

### Поры года

1

Зерне прарастае сонцам.
І зелень.
І раніца.
І даверʼ.
І надзея.
Барвамі красы Майстар згладжвае шрамы зямлі. А птушка ўзірацца
ў кругаварот дня.

2

Блакіт бездакорны.
Даспявае яблык.
І думка.
І верш.
І погляд.
Поўны фартух салодкіх вечароў высыпала на зямлю лета. І ўслухоўвацца
ў шэпт даспявання.

3

Тонкая нітка, як лёс матыля, абматала шыю восені.
І апаў ліст.
І крыло.
І павека.
І прыйшоў сон.
А сляза ў воку зямлі вялікая, як жаль прамінання.

4

На шыбе белы агарод.
Смерць не сатрэ памяць.
І вясну.
І лета.
І восень.
Зіма мыліць твар зямлі, каб лягчэй было вырваць корань. А законам —
вяртанне, як світанак дня.

*Чэслаў Мілаш*

### На досвітку

Мінулага стагоддзя
Разбеганыя коні.
Над светам велізарнае
Расшыраецца світанне.
Мой факел бляднее а неба святлее.
Стаю я ля скальнай гроты над ракі
гоманам.
Ў золку над гарамі краёк маладзіка.

1976

*З польскай мовы пераклаў Юры Трачук*

*Міра Лукша*

* * *

рэч жыве
ў сваёй вечнасці
а не ў тваім слове



Мал. Міколы Давідзюка

*Эльжбета Казлоўская-Свянткоўская*

* * *

высокая зорка Навіной свеціць
за шыбай все начны снегапад
амяла прыкрывае полымя свечкі
а сярод цішы радасць Каляд
навучы нас, Божа
слухаць плач бяроз
птушак, зёлак у збожжы
бяздомных слёз
будзь з намі ў дарозе
падчас злых і добрых умоў
абагрэй на марозе
і дай любоў
абдаруй нас, Божа
шчодрасцю сваіх слоў
будзь званком прыгожым
сярод нашых палёў
цяпло сноў нашых
захавацъ дазволь
навучы прабачваць
і супакой боль

*Пераклаў Віктар Швед*

*Міхась Андрасюк*

### Адзінота ў чарзе да зубнога лекара

Прыходзяць раньком.

Адны з парожнімі рукамі, іншыя з маленькімі торбамі, мяшэчкамі. Тут-сюд фарсіць блішчасты несесер бізнесмена.

Прыносяць боль, кожны на свой лад. Тыя, што прыйшлі з парожнімі рукамі — прыносяць яго ўяна, з пакрыўленымі тварамі: во, глядзіце, глядзіце! Іншыя — хаваюць у элегантныя саквы, выносячы на твар толькі абыякавасць або халодную ўсмешку.

Чакаюць доўга-коратка, а боль, ці бо прыхаваны, а ці яўны, валачэ тыя хвіліны ў бясконцасць.

Вось маладая дзяўчына. Нерухомая, вусны шчыльна зашнураваныя маўчаннем. Так зашнуроўваюць свае сукенкі іспанскія манашкі, прыгадалася мне невядома адкуль.

Прыгожая дзяўчына. А гэты мой шалапут сказаў мне ўчора, што ў яе крывыя зубы. І што прыемней яму было б цалавацца з цёткай Луізай, чымсьці з ёю. Падумаць толькі: з цёткай Луізай! Яна ж ужо тады хустачкі вышывала, калі хлопцы-саколікі збіраліся ў дзевяцьсот пятым біць касавокага японца.

У чарзе за дзяўчынай прысеў салдацік. Яму наадварот, не церпіцца. Крочыць уздоўж калідора, то туды, то назад. Коратка пастрыжаны, маладзенькі. Не сядзіцца салдаціку. Глядзіць ён па-над галовы сяброў зубное нядолі, далёка глядзіць, некуды за струну небакраю, працягнутую між бетоннымі слупішчамі шматпавярховых дамоў. Можа, угледзеў там нейкага ворага, што выскаліў зубы, каб глытануць наша шчасце? О, мроі болю!

Спяшаецца салдаціку.

Далей, за ім, — пажылы адвакат, пра якога кажуць, што з'еў зубы ў судзе. І яшчэ адна прыгажуня, з каляровым часопісам у руках.

І — Коля! Хлопец з яго ніштаваты. Учора нейкі ананімны мастак махнуў яму чырвоны яблык ніжэй левага вока. Сёння той яблык пераўтвараецца ў спеючую сліву, каб потым вінаградна пазелянець і зрабіцца, урэшце, накшталт жаўцеючай мядовай грушы, пасля чаго, як бы прайшоўшы праз колеры саду, прапасці ў траве забыцця...

„Засранае ў мяне шчасце, — думае Коля. — Усе шпарылі адзін аднаго, але толькі я пакінуў свае зубы за буфетам..."

Насупраць Колі, у куточку, — малюткая бабуся: не зводзіць зроку з дзвярэй. Твар яе нагадвае парыжэлы ад дажджоў і вятроў ды жніўнае спякоты камень у полі. Вусны ў бабуленькі няспынна варушацца, усё роўна бы ёй чысцілі апошнія зубы нейкія мурашкі... „Няшмат іх у яе, — нездаволяцца тыя мурашкі. — Былі пратэзы — няма пратэзаў. Кінула іх бабуся ў шклянку з вадою нанач ды ўнук-недарэка чапіў тую шклянку і бразнулася яна аб падлогу, ажно ўсенька зазвінела, бы грэшная душа ў медных кругах пекла..."

Дзверы ў кабінет зубнога лекара расчыніліся і тыя мурашкі суцішыліся, быццам сапраўдныя, калі ступіць на мурашыную дарожку чалавечая нага.

Але, ты, бабуся, сядзі ціха: цяпер пойдзе да лекара гэтая прыгажуня, а пасля Коля. Сядзі. Твая чарга далёкая, будзь рада...

### Бойня

Прачнуўся, калі яшчэ найранейшым пеўням сніцца баярска-афіцэрскія сны. Падворак ляжаў, бы агромністы кіт, закончаны чорнаю зяпаю варотаў у пуню.

Конь не спаў. Чакаў, калі адчыняцца дзверы і трэба будзе яму ісці.

Цёмна. Добра, што цёмна. Вачам лягчэй размінуцца ў змроку.

— Стук, стук, — старыя, нязграбныя капыты непатрэбна разбудзілі сумленне.

За хвастом адкладаецца апошняя баразна, а гравейка звязвае Вёску і Мястэчка.

## АННА ШЫМЧУК



**АННА ШЫМЧУК** *Нарадзілася 5 чэрвеня 1975 г. у Беластоку. Да 1979 г. пражывала ў вёсцы Рудуты, што каля Орлі. У 1979 г. з усёй сям'ёй пераехала ў Гайнаўку, дзе пражывае па сёння. Закончыўшы пачатковую школу н-р 5, паступіла ў Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, які закончыла ў 1994 г. Цяпер студэнтка І-га курса педагогікі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.*

*Вершы піша ад 13 года жыцця, а ў беларускай мове — ад 17-цігадовага ўзросту.*

### Не важна

А ці гэта вельмі важна,
Што кагосьці любіш?
Каго гэта абыходзіць,
Што праз тое ўночы плачаш?

А ці гэта вельмі важна,
Што ў адным сэрцы — два?
Каго гэта абыходзіць,
Што ў сэрцы хтосьці мае?

А ці гэта вельмі важна,
Што любіш, а ў сэрцы пуста?
Каго гэта абыходзіць,
Што пуста тваім вуснам?

А ці гэта вельмі важна,
Што кагосьці любіш?
Каго гэта абыходзіць,
Што праз тое плакаць будзеш?

### Мой бацька

Ён быў, як вада ў студні,
Як сонца на небе,
Як зорка ў змярканне.
Ён быў для мяне і хата.
Ён быў для вясны і лета.
Ён быў ...
Ён быў ...

### Просьба

Калі будзеш дзверы зачыняць,
то прашу:
не грукай імі занадта моцна
і не стукайся назад пазней.
І прашу: не прыходзь начамі!
Калі будзеш выходзіць дзвярыма,
то прашу:
выходзь ціхенька,
каб людзі не чулі,
і не ўцякай паспешліва.
А калі дзвярэй не ўтрымаеш
і ўдарацъ яны мяне ў твар,
то прашу: не прасі прабачэння,
кожнаму можа такое здарыцца.
А я на тваё „да пабачэння"
бадай што не пацалую цябе,
бо навошта з дарогі заварочваць.
Любоўі табе ўжо не трэба ...

## СТУДЗЕНЬ — STYCZEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Н** | **Баніфата, Nowy Rok** |
| 2 | 20 | Пн | Ігната, Хведара, Izydora |
| 3 | 21 | А | Ульяны, Пятра, Danuty |
| 4 | 22 | Ср | Анастассі, Фядоссі, Eugeniusza |
| 5 | 23 | Ч | Паўла, Ніфанта, Emiliana |
| 6 | 24 | Пт | *Куцця*, Яўгеніі, Trzech Króli |
| 7 | 25 | Сб | *Каляды (Нар. Хрыст.)*, Juliana |
| **8** | **26** | **Н** | **Сабор Прасвятой Багародзіцы, Mścisława** |
| 9 | 27 | Пн | Сцяпана, Хведара, Marceliny |
| 10 | 28 | А | Ніканора, Агаты, Nikanora |
| 11 | 29 | Ср | Маркела, Марка, Honoraty |
| 12 | 30 | Ч | Аніссі, Хвядоры, Arkadiusza |
| 13 | 31 | Пт | *Шчодры вечар*, Маланні, Bogumiły |
| 14 | 1 | Сб | *Новы Год*, Васіля, Feliksa |
| **15** | **2** | **Н** | **Серафіма, Сільвестра, Makarego** |
| 16 | 3 | Пн | Гардзея, Малахіі, Włodzimierza |
| 17 | 4 | А | Засімы, Феакціста, Rościsława |
| 18 | 5 | Ср | Міхея, Апалінарыі, Małgorzaty |
| 19 | 6 | Ч | *Вадохрышча (Богаяўленне)*, Mariusza |
| 20 | 7 | Пт | *Сабор св. Іаана Хрысціцеля*, Sebastiana |
| 21 | 8 | Сб | Юрыя, Емяльяна, Agnieszki, *Dzień Babci* |
| **22** | **9** | **Н** | **Піліпа, Пятра, Wiktora, Dzień Dziadka** |
| 23 | 10 | Пн | Рыгора, Феафана, Marii |
| 24 | 11 | А | Хвядоса, Міхаіла, Franciszka |
| 25 | 12 | Ср | Таццяны, Савы, Tatiany |
| 26 | 13 | Ч | Ярмілы, Пятра, Pauliny |
| 27 | 14 | Пт | Ніны, Angeliki |
| 28 | 15 | Сб | Паўла, Прахора, Tomasza |
| **29** | **16** | **Н** | **Даната, Пятра, Hanny** |
| 30 | 17 | Пн | Антона, Macieja |
| 31 | 18 | А | Апанаса, Кірылы, Ludwiki |

## ЛЮТЫ — LUTY

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ср | Макара, Арсеня, Ignacego |
| 2 | 20 | Ч | Яфіма, Іны, Mirosława |
| 3 | 21 | Пт | Максіма, Яўгена, Stefana |
| 4 | 22 | Сб | Цімафея, Лявона, Weroniki |
| **5** | **23** | **Н** | **Клімента, Генадзя, Agaty** |
| 6 | 24 | Пн | Ксені, Герасіма, Kseni |
| 7 | 25 | А | Рыгора, Майсея, Romualda |
| 8 | 26 | Ср | Аркадзя, Марыі, Hieronima |
| 9 | 27 | Ч | Яна, Дзмітрыя, Nikifora |
| 10 | 28 | Пт | Яфрэма, Ісаака, Elwiry |
| 11 | 29 | Сб | Ігната, Рамана, Lucjana |
| **12** | **30** | **Н** | **Васіля, Рыгора, Modesta** |
| 13 | 31 | Пн | Мікіты, Віктара, Swietłany |
| 14 | 1 | А | Трыфана, Васіля, Walentego, *Walentynki* |
| 15 | 2 | Ср | *Грамніцы (Стрэчанне Гасп.)*, Jowity |
| 16 | 3 | Ч | Ганны, Danuty |
| 17 | 4 | Пт | Сідара, Мікалая, Łukasza |
| 18 | 5 | Сб | Агаты, Хвядоса, Wiaczesława |
| **19** | **6** | **Н** | **Хрысціны, Марфы, Konrada** |
| 20 | 7 | Пн | Парфена, Лукі, Leona |
| 21 | 8 | А | Захара, Хведара, Feliksa |
| 22 | 9 | Ср | Нікіфара, Панкрата, Małgorzaty |
| 23 | 10 | Ч | Валянціны, Ганны, Damiana |
| 24 | 11 | Пт | Усевалада, Дзмітрыя, Sergiusza |
| 25 | 12 | Сб | Аляксея, Мялеція, Wiktora |
| **26** | **13** | **Н** | **Зоі, Святланы, Aleksandra** |
| 27 | 14 | Пн | Кірылы, Аўксенція, Anastazji |
| 28 | 15 | А | Анісіма, Ефрасінні, Romana |

## САКАВІК — MARZEC

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 16 | Ср | Данілы, Памфіла, Radosława, *Popielec* |
| 2 | 17 | Ч | Хведара, Марыяны, Heleny |
| 3 | 18 | Пт | Лявона, Флавіяна, Maryny |
| 4 | 19 | Сб | Архіпа, Максіма, Kazimierza |
| **5** | **20** | **Н** | **Агафона, Карніла, Adriana** |
| 6 | 21 | Пн | Цімафея, *Пачатак Вялікага Посту*, Wiktora |
| 7 | 22 | А | Маўрыкія, Апанаса, Tomasza |
| 8 | 23 | Ср | Аляксандра, Палікарпа, Beaty, *Dzień Kobiet* |
| 9 | 24 | Ч | Эразма, Яна, Katarzyny |
| 10 | 25 | Пт | Тараса, Cypriana |
| 11 | 26 | Сб | Парфіра, Севасцьяна, Konstantego |
| **12** | **27** | **Н** | **Пракопа, Ціта, Grzegorza** |
| 13 | 28 | Пн | Марыны, Дамінікі, Krystyny |
| 14 | 1 | А | Антаніны, Еўдакіі, Jakuba |
| 15 | 2 | Ср | Хвядота, Арсеня, Klemensa |
| 16 | 3 | Ч | Зянона, Кляоніка, Izabeli |
| 17 | 4 | Пт | Данілы, Герасіма, Zbigniewa |
| 18 | 5 | Сб | Адрыяна, Іраіды, Cyryla |
| **19** | **6** | **Н** | **Аркадзя, Хведара, Józefa** |
| 20 | 7 | Пн | Васіля, Яўгена, Klaudii |
| 21 | 8 | А | Феафілакта, Лазара, Mikołaja |
| 22 | 9 | Ср | *40 мучанікаў*, Кесарыя, Bogusława |
| 23 | 10 | Ч | Міхаіла, Кандрата, Pelagii |
| 24 | 11 | Пт | Сафрона, Яфіма, Gabriela |
| 25 | 12 | Сб | Рыгора, Феафана, Marii |
| **26** | **13** | **Н** | **Хрысціны, Нікіфара, Larysy** |
| 27 | 14 | Пн | Венядзікта, Расціслава, Lidii |
| 28 | 15 | А | Аляксандра, Гапея, Anieli |
| 29 | 16 | Ср | Трахіма, Юльяна, Wiktoryny |
| 30 | 17 | Ч | Аляксея, Макара, Dobromira |
| 31 | 18 | Пт | Кірылы, Трахіма, Balbiny |

# БЕЛАРУСКІ 1995 КАЛЯНДАР

У першай калонцы лічбаў прыводзяцца даты па новаму стылю; у другой — па старому стылю, прычым першых трынаццаць лічбаў адносяцца да папярэдняга месяца. У чацвёртай калонцы даюцца імёны святых або назвы важнейшых святаў: на першым месцы (па-беларуску) названы праваслаўныя імёны (святы), а на другім месцы (па-польску) — каталіцкія імёны (святы). Тоўстым шрыфтам пазначаны нядзелі і дзяржаўныя або каталіцкія святы, якія з'яўляюцца днямі вольнымі ад працы ў Польшчы. Курсівам пазначаны важнейшыя праваслаўныя святы а таксама недзяржаўныя каталіцкія і важнейшыя сямейныя.

## ЛІПЕНЬ — LIPIEC

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Сб | Лявона, Іпата, Haliny |
| **2** | **19** | **Н** | **Юды, Засімы, Marii,** |
| 3 | 20 | Пн | Мяфодзія, Апанаса, Anatola |
| 4 | 21 | А | Юльяна, Цярэнція, Elżbiety |
| 5 | 22 | Ср | Зіны, Зянона, Karoliny |
| 6 | 23 | Ч | Арцёма, Агрыпіны, Agrypiny |
| 7 | 24 | Пт | *Нар. св. Хрысціцеля Іаана*, Cyryla |
| 8 | 25 | Сб | Фяўронні, Пятра, Prokopa |
| **9** | **26** | **Н** | **Давіда, Дзяніса, Weroniki** |
| 10 | 27 | Пн | Марціна, Самсона, Witalisa |
| 11 | 28 | А | Сяргея, Германа, Olgi |
| 12 | 29 | Ср | *Пятра і Паўла*, Janiny |
| 13 | 30 | Ч | *12 Апосталаў*, Eugeniusza |
| 14 | 1 | Пт | *Кузьмы і Дзям'яна*, Stelli |
| 15 | 2 | Сб | Фоція, Ювеналія, Włodzimierza |
| **16** | **3** | **Н** | **Анатоля, Піліпа, Marii** |
| 17 | 4 | Пн | Андрэя, Марфы, Aleksego |
| 18 | 5 | А | Апанаса, Сяргея, Kamila |
| 19 | 6 | Ср | Юльяны, Валянціна, Wincentego |
| 20 | 7 | Ч | Тамаша, Акакія, Eliasza |
| 21 | 8 | Пт | Пракопа, Феафіла, Daniela |
| 22 | 9 | Сб | Кірылы, Панкрата, Magdaleny |
| **23** | **10** | **Н** | **Антона, Апалона, Apolinarego** |
| 24 | 11 | Пн | Вольгі, Яўфіміі, Krystyny |
| 25 | 12 | А | Міхаіла, Арсеня, Walentyny |
| 26 | 13 | Ср | Гаўрылы, Сцяпана, Anny |
| 27 | 14 | Ч | Анісіма, Юста, Natalii |
| 28 | 15 | Пт | *Уладзіміра*, Юліты, Wiktora |
| 29 | 16 | Сб | Юліі, Аляўціны, Marty |
| **30** | **17** | **Н** | **Марыны, Лазара, Julity** |
| 31 | 18 | Пн | Емяльяна, Івана, Ignacego |

## ЖНІВЕНЬ — SIERPIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | А | Серафіма, Макрыны, Piotra |
| 2 | 20 | Ср | *Ільі*, Апанаса, Kariny |
| 3 | 21 | Ч | Сымона, Ануфрыя, Lidii |
| 4 | 22 | Пт | *Марыі Магдаліны*, Dominika |
| 5 | 23 | Сб | Трахіма, Феафіла, Nony |
| **6** | **24** | **Н** | **Хрысціны, Барыса, Jakuba,** |
| 7 | 25 | Пн | *Ганны*, Алімпіяды, Doroty |
| 8 | 26 | А | Параскевы, Ермалая, Cypriana |
| 9 | 27 | Ср | *Панцеляймона*, Навума, Romana |
| 10 | 28 | Ч | *Смаленскай і Супрасльскай ікон Божае Маці*, Borysa |
| 11 | 29 | Пт | Калініка, Серафімы, Zuzanny |
| 12 | 30 | Сб | Андроніка, Валянціна, Sławomiry |
| **13** | **31** | **Н** | **Юліты, Еўдакіма, Diany** |
| 14 | 1 | Пн | Макавеяў, Аляксандра, Maksymiliana |
| **15** | **2** | **А** | **Сцяпана, Васіля, Wniebowzięcie NMP** |
| 16 | 3 | Ср | Ісаака, Антона, Rocha |
| 17 | 4 | Ч | Еўдакіі, Елеўферыя, Jacka |
| 18 | 5 | Пт | Ноны, Яўсігнея, Ilony |
| 19 | 6 | Сб | *Спаса (Праабраж. Гасп.)*, Juliana |
| **20** | **7** | **Н** | **Пімена, Мітрафана, Bernarda** |
| 21 | 8 | Пн | Мірона, Емяльяна, Franciszka |
| 22 | 9 | А | Мацвея, Антона, Cezarego |
| 23 | 10 | Ср | Лаўрэнція, Рамана, Filipa |
| 24 | 11 | Ч | Хведара, Васіля, Emilii |
| 25 | 12 | Пт | Фоція, Аляксандра, Luizy |
| 26 | 13 | Сб | Максіма, Ціхана, Sandry |
| **27** | **14** | **Н** | **Міхея, Хвядоса, Moniki** |
| 28 | 15 | Пн | *Спленне (Успенне Пр. Багародзіцы)*, Patrycji |
| 29 | 16 | А | Дзяміда, Херымона, Sabiny |
| 30 | 17 | Ср | Мірона, Паўла, Róży |
| 31 | 18 | Ч | Флора, Лаўра, Rajmunda |

## ВЕРАСЕНЬ — WRZESIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Пт | Андрэя, Цімафея, Bronisława |
| 2 | 20 | Сб | Самуіла, Севіра, Stefana |
| **3** | **21** | **Н** | **Фадзея, Васы, Szymona** |
| 4 | 22 | Пн | Апанаса, Агафоніка, Lilianny |
| 5 | 23 | А | Ірынея, Калініка, Doroty |
| 6 | 24 | Ср | Пятра, Георгія, Beaty |
| 7 | 25 | Ч | Варфаламея, Ціта, Reginy |
| 8 | 26 | Пт | Наталлі, Адрыяна, Radosława |
| 9 | 27 | Сб | Пімена, Савы, Sergiusza |
| **10** | **28** | **Н** | **Ганны, Арсеня, Łukasza** |
| 11 | 29 | Пн | *Галавасека (Усячэнне Галавы св. Іаана Хрысціцеля)*, Jacka |
| 12 | 30 | А | Аляксандра, Хрыстафора, Marii |
| 13 | 31 | Ср | Генадзя, Купрыяна, Eugenii |
| 14 | 1 | Ч | Сымона, Марфы, Cypriana |
| 15 | 2 | Пт | Яна, Руфіны, Nikodema |
| 16 | 3 | Сб | Дарафея, Анфіма, Edyty |
| **17** | **4** | **Н** | **Юльяна, Хведара, Justyny** |
| 18 | 5 | Пн | Елізаветы, Раісы, Stefanii |
| 19 | 6 | А | Макара, Рамана, Konstancji |
| 20 | 7 | Ср | Лукаша, Сазонта, Eustachego |
| 21 | 8 | Ч | *Прачыстая (Нараджэнне Пр. Дзевы Марыі)*,Mateusza |
| 22 | 9 | Пт | *Перанясенне мошчаў муч. Гаўрыіла*, Tomasza |
| 23 | 10 | Сб | Клімента, Пятра, Tekli |
| **24** | **11** | **Н** | **Сяргея, Германа, Teodora** |
| 25 | 12 | Пн | Юльяна, Хведара, Aurelii |
| 26 | 13 | А | Карніла, Валерыяна, Justyny |
| 27 | 14 | Ср | *Уздзвіжанне Крыжа Гасподняга*, Damiana |
| 28 | 15 | Ч | Мікіты, Сцяпана, Luby |
| 29 | 16 | Пт | Людмілы, Віктара, Michała |
| 30 | 17 | Сб | Веры, Надзеі, Любові, Zofii |

 

## КРАСАВІК — KWIECIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Сб | Дар'і, Клаўдзія, Grażyny |
| **2** | **20** | **Н** | **Сяргея, Яна, Władysława** |
| 3 | 21 | Пн | Якуба, Тамаша, Ryszarda |
| 4 | 22 | А | Васіля, Ісаака, Wacława |
| 5 | 23 | Ср | Лідзіі, Нікана, Wincentego |
| 6 | 24 | Ч | Арцёма, Захара, Norberta |
| 7 | 25 | Пт | *Благавешчанне (Дабравешчанне Пр. Багар.)*, Hermana |
| 8 | 26 | Сб | Алы, Ларысы, Dionizego |
| **9** | **27** | **Н** | **Матроны, Мануіла, Dymitra** |
| 10 | 28 | Пн | Іларыёна, Сцяпана, Michała |
| 11 | 29 | А | Марка, Кірылы, Leona |
| 12 | 30 | Ср | Яна, Сафрона, Juliusza |
| 13 | 31 | Ч | Іпата, Іоны, Idy |
| 14 | 1 | Пт | Марыі, Яфіма, Justyny |
| 15 | 2 | Сб | Палікарпа, Ціта, Anastazji |
| **16** | **3** | **Н** | **Вербніца, Мікіты, Wielkanoc, Julii** |
| **17** | **4** | **Пн** | **Пн Язэпа, Юрыя, Wielkanoc** |
| 18 | 5 | А | Хвядоры, Платона, Alicji |
| 19 | 6 | Ср | Мяфодзія, Яўціхія, Tymona |
| 20 | 7 | Ч | Даніла, Рыгора, Agnieszki |
| 21 | 8 | Пт | Радзівона, Руфы, Feliksa |
| 22 | 9 | Сб | Вадзіма, Дзісана, Łukasza |
| **23** | **10** | **Н** | **Вялікдзень, Цярэнція, Jerzego** |
| 24 | 11 | Пн | *Велікодны Панядзелак*, Анціпа, Aleksandra |
| 25 | 12 | А | Васіля, Давіда, Jarosława |
| 26 | 13 | Ср | Артамона, Дзмітрыя, Marzeny |
| 27 | 14 | Ч | Марціна, Антона, Teofila |
| 28 | 15 | Пт | Трахіма, Анастассі, Marka |
| 29 | 16 | Сб | Галіны, Ірыны, Rity |
| **30** | **17** | **Н** | **Адрыяна, Сямёна, Katarzyny** |

## ТРАВЕНЬ — MAJ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **18** | **Пн** | **Віктара, Кузьмы, Święto Pracy** |
| 2 | 19 | А | Хрыстафора, Трыфана, Anatola |
| **3** | **20** | **Ср** | **Гаўрыіла Заблудаўскага, Konstytucji 3 Maja** |
| 4 | 21 | Ч | Януара, Сакрата, Moniki |
| 5 | 22 | Пт | Віталя, Клімента, Ireny |
| 6 | 23 | Сб | *Юрыя*, Аляксандры, Rościsława |
| **7** | **24** | **Н** | **Савы, Елізаветы, Ludmiły** |
| 8 | 25 | Пн | Сільвестра, Марка, Stanisława |
| 9 | 26 | А | Глафіры, Васіля, Karoliny, *Dzień Zwycięstwa* |
| 10 | 27 | Ср | Сямёна, Сцяпана, Antoniny |
| 11 | 28 | Ч | Кірылы, Максіма, Miry |
| 12 | 29 | Пт | Мемнона, Дыядора, Dominika |
| 13 | 30 | Сб | Якуба, Мікіты, Roberta |
| **14** | **1** | **Н** | **Тамары, Макара, Bonifacego** |
| 15 | 2 | Пн | Барыса, Глеба, Nadziei |
| 16 | 3 | А | Цімафея, Хвядоса, Andrzeja |
| 17 | 4 | Ср | Пелагеі, Сільвана, Sławomira |
| 18 | 5 | Ч | Ірыны, Адрыяна, Eryka |
| 19 | 6 | Пт | Міхея, Іова, Mikołaja |
| 20 | 7 | Сб | Ніла, Акакія, Bazylego |
| **21** | **8** | **Н** | **Арсеня, Яна, Wiktora** |
| 22 | 9 | Пн | *Мікалая*, Ісая, Wiesławy |
| 23 | 10 | А | Сымона, Таісы, Iwony |
| 24 | 11 | Ср | *Кірылы і Мяфодзія*, Joanny |
| 25 | 12 | Ч | Германа, Дзяніса, Grzegorza, *Wniebowstąpienie* |
| 26 | 13 | Пт | Аляксандра, Макара, Pauliny, *Dzień Matki* |
| 27 | 14 | Сб | Мікіты, Сідара, Magdaleny |
| **28** | **15** | **Н** | **Мадэста, Пахома, Augustyna** |
| 29 | 16 | Пн | Хведара, Музы, Teodozji |
| 30 | 17 | А | Сцяпана, Ефрасінні, Feliksa |
| 31 | 18 | Ср | Клаўдзіі, Юліі, Anieli |

## ЧЭРВЕНЬ — CZERWIEC

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ч | *Ушэсце (Узнясенне Гасподняе)*, Jakuba, *Dzień Dziecka* |
| 2 | 20 | Пт | Аляксандра, Аляксея, Marianny |
| 3 | 21 | Сб | Канстанціна, Алены, Tamary |
| **4** | **22** | **Н** | **Васіліска, Якуба, Zielone Świątki, Karola** |
| 5 | 23 | Пн | Ефрасінні, Лявона, Dobromira |
| 6 | 24 | А | Сцяпана, Сямёна, Norberta |
| 7 | 25 | Ср | Яна, Ферапонта, Wiesława |
| 8 | 26 | Ч | Карпа, Алены, Maksyma |
| 9 | 27 | Пт | Ніла, Хвядоры, Pelagii |
| 10 | 28 | Сб | Мікіты, Ігната, Nikity |
| **11** | **29** | **Н** | **Сёмуха (Дзень св. Тройцы), Feliksa** |
| 12 | 30 | Пн | *Дзень Святога Духа*, Onufrego |
| 13 | 31 | А | *Крыначка*, Ерамея, Antoniego |
| 14 | 1 | Ср | Усціна, Дзяніса, Elizy |
| **15** | **2** | **Ч** | **Нікіфара, Яна, Boże Ciało, Jolanty** |
| 16 | 3 | Пт | Лук'яна, Паўлы, Aliny |
| 17 | 4 | Сб | Мітрафана, Марфы, Laury |
| **18** | **5** | **Н** | **Ігара, Дарафея, Elżbiety** |
| 19 | 6 | Пн | Тэклі, Сусанны, Gerwazego |
| 20 | 7 | А | Валерыя, Хвядота, Bogny |
| 21 | 8 | Ср | Хведара, Яфрэма, Alicji |
| 22 | 9 | Ч | Кірылы, Марфы, Innocentego |
| 23 | 10 | Пт | Аляксандра, Цімафея, Wandy, *Dzień Ojca* |
| 24 | 11 | Сб | Варфаламея, Варнавы, Jana |
| **25** | **12** | **Н** | **Св. Ануфрыя, Пятра, Łucji** |
| 26 | 13 | Пн | Антаніны, Ганны, Pawła |
| 27 | 14 | А | Елісея, Мяфодзія, Władysława |
| 28 | 15 | Ср | Амоса, Віта, Raisy |
| 29 | 16 | Ч | Ціхана, Яўтропія, Piotra |
| 30 | 17 | Пт | Мануіла, Ісмаіла, Lucyny |

# КАЛЯНДАР 1995 „НІВЫ"

### ДАДАТКОВЫЯ ВЫХАДНЫЯ ДНІ У 1995 ГОДЗЕ

7, 14, 28 студзеня;
4, 11, 18 лютага;
4, 11, 18 сакавіка;
1, 8, 15 красавіка;
2, 13, 20 траўня;
3, 10, 24 чэрвеня;
8, 15, 22, 29 ліпеня;
5, 12, 14, 26 жніўня;
9, 16, 30 верасня;
14, 21, 28 кастрычніка;
4, 18, 25 лістапада;
9, 16, 23 снежня.



## КАСТРЫЧНІК — PAŹDZIERNIK

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **18** | **Н** | **Софіі, Ірыны, Danuty** |
| 2 | 19 | Пн | Давіда, Канстанціна, Dionizego |
| 3 | 20 | А | Міхаіла, Алега, Teresy |
| 4 | 21 | Ср | Кандрата, Дзмітрыя, Franciszka |
| 5 | 22 | Ч | Іоны, Пятра, Igora |
| 6 | 23 | Пт | Андрэя, Іраіды, Artura |
| 7 | 24 | Сб | Уладзіслава, Тэклі, Marka |
| **8** | **25** | **Н** | **Сяргея, Ефрасінні, Pelagii** |
| 9 | 26 | Пн | Яна, Яфрэма, Ludwika |
| 10 | 27 | А | Зінаіды, Марка, Pauliny |
| 11 | 28 | Ср | Вячаслава, Харытона, Zenaidy |
| 12 | 29 | Ч | Феафана, Кірыяка, Serafina |
| 13 | 30 | Пт | Міхаіла, Рыгора, Edwarda |
| 14 | 1 | Сб | *Пакрова (Пакроў Пр. Багародзіцы)*, Bernarda |
| **15** | **2** | **Н** | **Андрэя, Усціны, Jadwigi** |
| 16 | 3 | Пн | Дзяніса, Яна, Florentyny |
| 17 | 4 | А | Веранікі, Уладзіміра, Lucyny |
| 18 | 5 | Ср | Пятра, Піліпа, Łukasza |
| 19 | 6 | Ч | Тамаша, Макара, Piotra |
| 20 | 7 | Пт | Пелагеі, Сяргея, Ireny |
| 21 | 8 | Сб | Таісы, Пелагеі, Urszuli |
| **22** | **9** | **Н** | **Якуба, Аўраама, Filipa** |
| 23 | 10 | Пн | Амвросія, Андрэя, Ignacego |
| 24 | 11 | А | Піліпа, Зінаіды, Marcina |
| 25 | 12 | Ср | Марціна, Кузьмы, Darii |
| 26 | 13 | Ч | Веньяміна, Карпа, Lucjana |
| 27 | 14 | Пт | Назара, Параскевы, Iwony |
| 28 | 15 | Сб | Лук'яна, Яна, Tadeusza |
| **29** | **16** | **Н** | **Лонгіна, Dalii** |
| 30 | 17 | Пн | Андрэя, Кузьмы, Zenobii |
| 31 | 18 | А | Лукі, Язэпа, Urbana |

## ЛІСТАПАД — LISTOPAD

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Ср** | **Яна, Клеапатры, Wszystkich Świętych** |
| 2 | 20 | Ч | Арцёма, Герасіма, Bohdana |
| 3 | 21 | Пт | Іларыёна, Феафіла, Sylwii |
| 4 | 22 | Сб | *Казанскай Іконы Божае Маці*, Karola |
| **5** | **23** | **Н** | **Якуба, Ігната, Sławomira** |
| 6 | 24 | Пн | Апанаса, Арэфы, Feliksa |
| 7 | 25 | А | Марціна, Анастаса, Antoniego |
| 8 | 26 | Ср | Дзмітрыя, Апанаса, Seweryna |
| 9 | 27 | Ч | Несцера, Андрэя, Teodora |
| 10 | 28 | Пт | *Пяценка*, Параскевы, Неанілы, Neli |
| **11** | **29** | **Сб** | **Ганны, Анастассі, Święto Niepodległości** |
| **12** | **30** | **Н** | **Зіновія, Арцёма, Witolda** |
| 13 | 31 | Пн | Урбана, Нікадзіма, Mikołaja |
| 14 | 1 | А | Кузьмы і Дзям'яна, Emila |
| 15 | 2 | Ср | Маркіяна, Акіндзіна, Idalii |
| 16 | 3 | Ч | Гапея, Язэпа, Marka |
| 17 | 4 | Пт | Нікандра, Анікея, Grzegorza |
| 18 | 5 | Сб | Галакціёна, Рыгора, Romana |
| **19** | **6** | **Н** | **Паўла, Клаўдзіі, Elżbiety** |
| 20 | 7 | Пн | Засіма, Антона, Anatola |
| 21 | 8 | А | *Міхаіла*, Рафаіла, Konrada |
| 22 | 9 | Ср | Матроны, Анісіфара, Marka |
| 23 | 10 | Ч | Радзівона, Арэста, Klemensa |
| 24 | 11 | Пт | Віктара, Сцепаніды, Flory |
| 25 | 12 | Сб | Яна, Ніла, Katarzyny |
| **26** | **13** | **Н** | **Нікіфара, Яна, Sylwestra** |
| 27 | 14 | Пн | Піліпа, Рыгора, Waleriana |
| 28 | 15 | А | Гурыя, Дзмітрыя, Zdzisława |
| 29 | 16 | Ср | Мацвея, Сяргея, Błażeja |
| 30 | 17 | Ч | Рыгора, Нікана, Andrzeja |

## СНЕЖАНЬ — GRUDZIEŃ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Пт | Платона, Рамана, Natalii |
| 2 | 19 | Сб | Адрыяна, Аўдзея, Pauliny |
| **3** | **20** | **Н** | **Рыгора, Ганны, Franciszka** |
| 4 | 21 | Пн | *Увядзенне ў храм Пр. Багародзіцы*, Barbary |
| 5 | 22 | А | Філімона, Архіпа, Krystyny |
| 6 | 23 | Ср | Мітрафана, Аляксандра, Mikołaja |
| 7 | 24 | Ч | Кацярыны, Парфірыя, Marcina |
| 8 | 25 | Пт | Пятра, Клімента, Marii |
| 9 | 26 | Сб | Якуба, Інакенція, Nataszy |
| **10** | **27** | **Н** | **Рамана, Паладзія, Danieli** |
| 11 | 28 | Пн | Сцяпана, Хведара, Daniela |
| 12 | 29 | А | Парамона, Нектарыя, Ady |
| 13 | 30 | Ср | Андрэя, Фруменція, Łucji |
| 14 | 1 | Ч | Навума, Філарэта, Arseniusza |
| 15 | 2 | Пт | Авакума, Апанаса, Niny |
| 16 | 3 | Сб | Савы, Сафрона, Euzebiusza |
| **17** | **4** | **Н** | **Варвары, Юльяна, Olimpii** |
| 18 | 5 | Пн | Савы, Захара, Bogusława |
| 19 | 6 | А | *Мікалая*, Dariusza |
| 20 | 7 | Ср | Яна, Амвросія, Bogumiły |
| 21 | 8 | Ч | Анфісы, Кірылы, Tomasza |
| 22 | 9 | Пт | Ганны, Сцяпана, Honoraty |
| 23 | 10 | Сб | Ангеліны, Тамаша, Sławomiry |
| **24** | **11** | **Н** | **Данілы, Нікана, Ewy** |
| **25** | **12** | **Пн** | **Аляксандра, Спірыдона, Boże Narodzenie** |
| **26** | **13** | **А** | **Яўгена, Арэста, Dionizego** |
| 27 | 14 | Ср | Філімона, Апалоніі, Żanety |
| 28 | 15 | Ч | Трыфана, Сцяпана, Cezarego |
| 29 | 16 | Пт | Агея, Марына, Dawida |
| 30 | 17 | Сб | Данілы, Ананія, Eugeniusza |
| **31** | **18** | **Н** | **Зоі, Севасцьяна, Sylwestra** |

 

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Танец і пажаданні

Адкуль звычка танцаваць у навагодні вечар?

Нашыя продкі, старажытныя славяне, у той перыяд, калі мы зараз святкуем Каляды, Новы год і Тры каралі, таксама адзначалі самыя ўрачыстыя дні года. Палілі яны вялікія вогнішчы і праводзілі рытуальныя гульні. Усё гэта прысвячалі магутнаму Сонцу. Самае магічнае значэнне меў танец. Нашыя прашчуры верылі, што танец ачышчае душу і цела. А калі рытм чалавека спалучыцца з вірам Сусвету, тады ў ім ажывае крыніца творчай энергіі. У той момант трэба падзякаваць Сонцу за мінулае і папрасіць надзейнай будучыні. Сёння такім танцам займаюцца нямногія. У навагоднюю ноч выконваем модныя танцы. Памятаем таксама, каб усім пажадаць шчаслівага Новага года.

І я вам, дарагія чытачы „Зоркі", жадаю ўсяго найлепшага ў новым, 1995 годзе.

**Ганна Кандрацюк**

## ТУРНІР

Калі я была ў другім класе, на зімовых канікулах у нашай школе нумар 9 у Беластоку арганізавалі курс таварыскага танца. Я ад наймалодшых гадоў любіла танцаваць і вельмі прасіла маму, каб яна запісала мяне на гэты курс. Мама згадзілася, хаця трэба было нямала заплаціць. На гэты курс я хадзіла дзесяць дзён, а пасля настаўнік танца К. Бялявец узяў мяне ў свой клуб „Ціп-топ".

І так у лютым гэтага года ўжо будзе два гады, як я вучуся танцаваць. Заняткі праводзяцца тры разы ў тыдзень. Я ўжо ўмею танцаваць шмат танцаў: самбу, румбу, чачу, пасадобль, джайф, польку, англійскі і венскі вальсы, куік-стэп, танга. Цяпер развучваем факстрот. Гэта не так, як бачыш на дыскатэцы, што кожны танцуе, як хоча. Кожны танец мае акрэсленыя крокі, фігуры. Трэба ведаць не толькі, як ступіць нагою, але і як у адпаведным моманце трымаць руку, галаву, на якой адлегласці быць ад партнёра. Некаторыя памылкі дыскваліфікуюць пару. Найважнейшае, каб пара была сыграная.

Напэўна не ўсе ведаюць, што таварыскі танец — гэта від спорту. За гэтыя два гады я брала ўдзел у васьмі танцавальных турнірах, у тым ліку два былі агульнапольскія, а адзін — міжнародны.

26 лістапада 1994 г. я брала ўдзел у чэмпіянаце акругі, які адбыўся ў Сувалках. У катэгорыі дзяцей да 10 гадоў выступіла 60 пар з Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў. Нам з Матэушам Панінскім далі нумар 33.

Спачатку я не хвалявалася. Пачалі танцаваць ад адной шаснаццатай. Думаю: прайду далей, дык прайду. Прайшлі! Танцавалі пяць танцаў: англійскі вальс, куік-стэп, чачу, джайф і польку.



*Ада і Матэуш.* Фота А. Ч.

Танцуем у адной восьмай. Прайшлі ізноў! І так мы ўжо ў чвэрцьфінале. Ізноў тыя самыя танцы, толькі дзяцей выразна паменшала. Рукі мае ўзмакрэлі і сталі халодныя, як лёд. Каб толькі быць у паўфінале! Так бы хацелася быць сярод лепшых. Ёсць! Сярод дванаццаці паўфіналістаў выклікаюць і нас з Матэушам.

Апетыт расце па меры яды. Ужо нам захацелася трапіць і ў фінал. На жаль, у фінал выбралі шэсць іншых пар, а мы, як казаў наш настаўнік, апынуліся на 10 месцы. Аднак жа за польку ўсе пяць суддзяў (два з Варшавы, па аднаму — з Лодзі, Гданьска і Эльбланга) вытыпавалі нас у фінал.

Такім чынам, мы пратанцавалі ў гэтым турніры дваццаць танцаў.

**Ада Семянюк, Беласток**

## Вершы Віктара Шведа

### КАГО БОЛЬШ ЛЮБІШ?

Пытае Люба
Малога брата:
— Каго больш любіш —
Маму, ці тату?

Адказ быў гэткі:
— Тату, вядома,
Бо тата рэдка
Бывае дома.

### БОЛЬ ЦІ СТРАТА?

Так страшэнна ў хаце роў
Неслухмяны Лёўка!
Сёння ён ад бацькі зноў
Атрымаў лупцоўку.

— Бацька моцна пакараў? —
Пытае брат, Жэня.
— Папяросы ж паламаў
Мне ён у кішэні!

### ЦІ ЎЛАСНЫЯ ЗУБЫ?

Дзеду пытае
Унучка Люба:
— Ці ты, дзедка, маеш
Уласныя зубы?

— Уласныя, доня:
Выгода, раскоша.
Плаціў ж за іх сёння
Уласныя грошы...

### ДАВЕДАЛАСЯ

— Ці тата ў хаце? —
Пытае суседка.
— Няма, ён на працы, —
Адказвае дзетка.

— А, можа, мама
Знаходзіцца ў хаце?..
— Не, мама таксама
Паспела схавацца.

## Вясёлы куточак

На ўроку польскай мовы настаўнік пытае Мішу:

— Ты задаволены сваімі канікуламі?

— Так, але не настолькі, каб пісаць пра іх сачыненне.

***

Настаўніца правярае хатнюю працу Колі.

— Ты зноў памыліўся ў рахунках. Атрымалася два разы болей, як павінна.

— Мне тата дапамагаў у дадаванні.

— А кім працуе твой тата?

— Афіцыянтам у кавярні.

***

Маленькі Казік падаў слоічак прадаўшчыцы і папрасіў смятану. Тая наліла і аддае слоік.

— Плаціш дзесяць тысяч.

— Мама паклала грошы ў слоічак.




**Паважаная „Зорка"!**

Добры дзень! На пачатку хачу вельмі падзякаваць рэдакцыі „Нівы" за прыгожы гадзіннік і цікавую кніжку „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі".

Цяпер канец восені і надыходзіць зіма. Ужо сонца рэдка калі прыгрэе, часта бываюць замаразкі. На гаспадарцы, як заўсёды, многа працы. Людзі рыхтуюцца да зімы: сякуць дровы, накрываюць лісцем бурты з бульбай.

Я пасылаю Вам вершы. А вось яны:

### Снежань

По лістападзе прыйшоў,
З марозам, ветрам да нас зайшоў.
Інеем дрэвы памаляваў,
Выйсці з хаты мне не даў.
А марозам-мастаком
Колькі ён намаляваў акон?
Намяляваў у кветачкі і кветкі
Вокны быццам летнія паляны-палеткі
І ветрам павеяў па лугах, палях,
Па вёсках, барах і лясах.

### Мароз

Мароз, маразок,
Працавіты мастачок.
Усе вокны ў хаце кветкамі
замаляваў,
Выйсці з хаты мне не даў.

Мароз усю ночку вокны маляваў
І з ветрам у полі гуляў.
А ранкам стапіўся, прапаў.
Толькі на дрэвах слядочак застаў.

**Юрка Буйнюк, кл. VII, Малінніkі**

**Дарагая „Зорка!"**

Раскажу Вам аб сустрэчы з беларускім паэтам Віктарам Шведам. Адбылася яна 1 снежня 1994 г. у Пачатковай школе н-р 2 у Гайнаўцы. На ўрачыстасці былі прысутныя настаўнікі беларускай і польскай моў, настаўнікі рэлігіі, дырэктар школы.

Паэт расказаў нам сваю біяграфію, а пасля чытаў свае вершы. Аўтар таксама падпісваў зборнікі сваіх твораў.

Спатканне нам падабалася. Вершы былі нам зразумелыя і з гумарам. Дарагому госцю мы падарылі букет кветак.

**Кася Іванюк, кл. III б, Гайнаўка**

# СТАЯННЕ ЗОІ

Здарылася гэта ў 1956 годзе ў Куйбышаве (Самара), дзе жыла адна набожная жанчына са сваёй дачкой Зояй. Напярэдадні Новага года, 31 снежня па новаму стылю, вырашыла яна, насуперак маці, наладзіць навагодняе гулянне. Быў гэта канчатковы перыяд Каляднага посту, і калі маці пайшла ў царкву, неўзабаве пачаўся баль. У ліку сямі запрошаных сяброў і сябровак не хапала толькі Зоінага партнёра Мікалая. Раззлаваная дзяўчына без агляркі зняла са сцяны ікону Свяціцеля Мікалая і сказала: „Вазьму гэтага Мікалая і пайду з ім танцаваць". Не паслухала яна сваіх сябровак, якія прасілі не рабіць такое святатацтва. „Калі Бог ёсць, тады Ён мяне пакарае", — сказала.

Як толькі пачаліся танцы, падняўся неймаверны шум і асляпляльная яснага быццам маланка напоўніла ўвесь пакой. Вясёлыя гульні перамяніліся ў трывогу. Усе выбеглі з пакоя, у якім засталася толькі Зоя з прытуленай да грудзей іконай Свяціцеля. Дзяўчына акамянела і была халодная як мармур. Не дапамагалі ніякія старанні лекараў. Нельга было зрабіць укол, бо іголкі гнуліся і лопалі, ні завезці Зою ў шпіталь, бо не ўдалося скрануць яе з месца. Пасля вяртання з царквы, маці, убачыўшы здарыўшаеся, абамлела. Вярнуць сілы дапамаглі ёй вера ў Божую міласэрнасць і гарачыя малітвы аб памілаванні дачкі. Са слязамі малілася маці Госпаду, просячы прабачэння і дапамогі.

Першыя дні пасля здарэння дом быў акружаны натоўпам людзей, а сярод іх знаходзіліся вернікі з далёкіх мясцін і звычайныя разявакі. Многа прыйшло таксама лекараў і духоўных. Улады, аднак, хутка закрылі кватэру для наведвальнікаў, а міліцыянеры кругласутачна дзяжурылі каля дома. Некаторыя з дзяжурных, адносна маладыя людзі (28—32 гадоў), пасівелі са страху, калі чулі, як Зоя крычыць: „Мама, маліся! Маліся, у грахах прападаем! Маліся"!

Аб незвычайным здарэнні паведамілі патрыярха Алексія, які ў адказ напісаў: „Той, хто пакараў, той і змілуецца".

Зою наведалі, між іншым:

1. Прафесар медыцынскіх навук з Масквы, які пацвердзіў працу сэрца, хаця цела было акамянелае.
2. Духоўныя, запрошаныя маці, якія не змаглі выняць ікону з рук дзяўчыны.
3. На Раждажства Хрыстова прыехаў адзін іераманах — Серафім. Пасля вадасвятнага малебна і асвячэння пакоя ўдалося яму выняць з рук Зоі ікону і павесіць яе на сваё месца. Сказаў ён тады, што знака трэба чакаць на Вялікдзень.
4. З Масквы прыехаў мітрапаліт Мікалай, які таксама адслужыў малебен і пацвердзіў словы іераманаха Серафіма, што ўся справа вырашыцца на Вялікдзень.

Перад Благавешчаннем (а была гэта тады субота трэцяга тыдня Вялікага посту) некалькі разоў прыходзіў дабрадушны, дастойны старац, але яго міліцыянеры ў кватэру не пускалі. Дазволілі ўвайсці яму толькі ў дзень Благавешчання. Чулі яны таксама ласкавыя словы, якія старац сказаў Зоі: „Пэўна ты ўжо стамілася гэтым стаяннем?" Калі праз нейкі час міліцыянеры хацелі адпусціць старца, выявілася, што ў кватэры яго ўжо няма (усе былі пераканаы, што гэта быў сам Свяціцель Мікалай).

Так вось стаяла Зоя 128 дзён да самога Вялікадня, які ў 1956 годзе выпаў 23 красавіка (6 мая па старому стылю). Дзяўчына асабліва моцна крычала „Маліцеся!" у велікодную ноч. Жудасна стала дзяжурным міліцыянерам і калі спыталі Зою, чаму яна так крычыць, пачулі ў адказ: „Усюды страшна, зямля гарыць! Маліцеся! Увесь свет гіне ў грахах, маліцеся!" У гэты момант Зоя ажыла. Паклалі яе ў ложак, а яна ўвесь час гаварыла і прасіла маліцца за свет, які гіне ў грахах. На пытанне: „Хто цябе карміў?", адказала: „Галубы, галубы мяне кармілі". Гэта было сведчаннем таго, што Гасподзь змілаваўся над ёй і дараваў ёй грахі пасля заступніцтва Свяціцеля Мікалая, а таксама з увагі на ейныя пакуты.

Гэтая падзея моцна паўплывала на жыхароў Куйбышава. Многі навярнуліся і пайшлі ў царкву раскаяцца за свае грахі. Няхрышчаныя сталі прымаць таінства хрышчэння, а тыя, што не насілі нагрудных крыжыкаў, сталі насіць іх.

На трэці дзень Вялікадня Зоя пайшла на той свет, перанёсшы цяжкі шлях 128 дзён стаяння перад абліччам Госпада як пакаянне за свой грэх. Дух Святы захоўвае жыццё душы, уваскрасаючы яе са смяротных грахоў, каб у будучым вечным дні паўсюднага Уваскрашэння памерлых і жывых уваскрасіць яе ў плоці для вечнага жыцця. Само слова „Зоя" грэчаскае і абазначае „жыццё".

Аб гэтым здарэнні ўспаміналася таксама і ў савецкай прэсе. Адзін навуковец, адказваючы на ліст чытача, пацвердзіў, што такая падзея мела месца. Паводле яго быў гэта від слупняка (tężca), невядомага медыцыне стану аслупення. Не супадае гэтае тлумачэнне з рэчаіснасцю, паколькі пры слупняку скура захоўвае мяккасць і хвораму можна рабіць уколы. Хворага таксама можна перасунуць у іншае месца і пакласці ў ложак. Зоя стаяла столькі ж часу, колькі не выстаяў бы нават моцны, здаровы чалавек, і нельга было яе скрануць з месца. Урэшце, сама хвароба не наваручае к Богу і не дае незвычайных з'яўленняў. У гэтым выпадку тысячы людзей паверылі ў Бога і навярнуліся, а сваю веру даказалі ўчынкамі — ахрысціліся і сталі маральна лепшымі. Ва ўсім гэтым было дзеянне Самога Тварца, які ў цудоўны спосаб замацоўвае веру, каб збавіць людзей ад грахоў і ад пакарання за грахі.

Паводле: *Православные чудеса в XX веке. Свидетельства очевидцев*, Москва 1993.

**С. Н.**

# ІКОНЫ

**Частка XV**

Апошнюю размову з бацькам аб рэлігійных справах правёў я на чатыры гады перад яго смерцю, у 1971 годзе. Як гэта бывае ў большасці нашых людзей, разважаў Ён аб даўнім мінулым. У яго разважаннях захавалася ранейшая тэндэнцыя пахвалы рэлігійнай талерантнасці і асуджэнне ўсякага экстрэмізму.

„Ну, вядомо, сам напэўно аб гэтым знаеш. Духоўныя таксамо як і нармальныя людзі бываюць розныя. Ёсць такія, што скачут чортам, калі дазнаюцца, што ты ні верыш, а ест і такіе, што адносяцца да гэтаго нармально і разумно. У мяне то быў такі адзін выпадок. Дакладно ні помню чы гэто было яшчэ за немцоў, чы ужэ ў час дэмакратыі пасля вайны. Аднаго разу прыехаў да нашае вёскі поп з Юшкавага Груда па калядзе або штось такое. Пасвенцаў ён, як трэбо хату, а после раптам мне кажэ: „Знаешь что, Барщевский, наша церковь будет в следующем году праздновать большой праздник".

„А які ж гэта праздні?" — спытаў я яго.

А ён мне адказвае: „Согласно священного писания в этом году ис-полняется семь тысячь четыреста пятьдесят лет от создания Богом земли, воды, неба, вселенной и человека".

А я яму гавару: „Знаеце, бацюшка, я ні веру, што Бог за шэсць дзён стварыў свет, і ні веру, што з гліны зляпіў чалавека, і ні веру, што разступілося морэ перад жыдамі, і ні веру ў манну з неба, і ні веру, што чалавек падобны да Бога. Бо вядомо, што ест людзі і чорны, і белы, і жоўты, а яшчэ ест у Афрыцы такіе племена, што людзі вельмі падобны да абяз'ян. То калі Бог стварыў чалавека падобнаго да сябе, то які той Бог: чорны, белы чы жоўты? А можэ такі, як тыя людзі з дзікіх афрыканцаў? Я думаю, што Бог у ніякім разе не падобны да чалавека".

А ён як ні крыкне: „Так что, ты вообще не веришь в Бога!"

А я яму кажу:

„Не, бацюшка, я веру ў Бога і думаю, што боска сіла найбольша на свеці, але Бог не падобны да чалавека і напэўно Бог стварыў свет ні за шэсць дзён, але за мільёны лет. А от у чорта з рагамі і капытамі вогуле ні веру, і ні веру ў тое, што чэрці ў пеклі кіпяцят людзей у катлах. Зрэштаю, падумайце, бацюшка, як гэто так можэ быць, што Бог нагараждае веруючых, бярэ іх у рай і стварае ім шчаслівэ жыцце, а чорт грэшнікаў, гэто значыт неверуючых, хватае ў пекло і смажыт іх у смале? То ж ведомо, што чорт ім таксамо павінен ставараць добры варункі, бо яны ж его староннікі".

І ты знаеш, што мне сказаў гэты поп? Ён задумаўся, пасядзеў і сказаў так: „Барщевский, есть у тебя водка? Если есть, налей по рюмке". Я наліў па чарцы, выпілі мы і ён мне кажэ:

„Барщевский, вселенная, мир и человек это большие загадки. Их сути никто не знает и, видимо, никогда не узнает. И поэтому можно думать поразному. И ты можешь думать как хочешь, только не бунтуй людей против православной церкви. Налей еще по рюмке".

Наліў я зноў па чарцы, выпілі мы і я яму сказаў:

„Бацюшка, самі знаеце, што ўсе дзеці ў мяне хрышчаны, іконы ў маёй хаці вісят, на царкву, што трэбо даю, свята праваслаўны святкую. І я ні толькі ні бунтую чужых людзей, але пазваляю сваёй жонцы ў цэркву хадзіці і штодня маліцца. І Біблія ў маёй хаці была і ест, і з духоўнымі я так як Начко (Іван Бура) ні грызуся, і з падворка іх ні выганяю. Я шчытаю, што кожны чалавек павінен жыці так, як ён хочэ і ніхто ні мае права ему перашкаджаці ў веры або ніверы. Ні важнэ тое, як чалавек верыт, важнэ, коб людзям ён ні рабіў зла. А вы выпаўняеце свае абавёнзкі і выпаўняйце іх на здароўе. Праваслаўе, па-моему нам патрэбнэ. Бо калі б яго тут ні было, то тут адразу польскасць настала б, і быў бы нам, беларусам, каюк".

Больш мы ужэ з ім ні пілі, але яшчэ даўгавато пагаварылі. Ты знаеш, я вельмі часто его ўспамінаю, бо ён аказаўся разумным чалавекам і саглясіўся за мною, што Бог паддзержыт толькі таго чалавека, каторы іншым людзям робіт дабро. От, мне і сегодня здаецца, што ні можэ быці такого, коб свалата нагараджалася таму, што яна много малілася, а парадачны чалавек караўся, бо ні маліўся. Ну, а цэрква нам патрэбна. Па-першае таму, што многім людзям яна памагае жыці. У цэркві і после ее веруючы адчувае сябе лягчэй і весялей. Ну, а па-другое, то калі б з нашае зямлі прапалі цэрквы, то тут у тры міга выраслі б касцёлы і прапалі б мы на векі вечныя. І таму можэш верыці ці ні верыці, але ні асуджай таго чалавека, каторы думае чы верыт па-другому, чым ты. Гэто его дзело, а ні твае. Ну, а сам ты ўцякай як найдалей ад тае свалаты, што сілаю прымушае другіх людзей верыці або ні верыці. А іконы ў нас важныя, былі яны ў нас пры прадзедах, дзедах і бацьках, то мусят быці пры нас і пры нашых унуках. Праўда, здаецца, бапцісты выкідают іконы і моляцца да Бога без іконаў, але гэто іх дзело, а ні нашэ. Хай кажды жыве па сваіх правілах, абы толькі зла людзям ні рабіў. А ад дуракоў, каторы хочут устанаўліваці сілаю свае законы і чэпляюцца да іншых людзей, унікай і годзі. Хай сабе брэшут. Пабрэшут і перастанут. А Бог іх за гэто ні пахваліт".

**Алесь Барскі**

## XIII Агульны сход
### Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы

У днях 9—11 снежня 1994 г. у Свята-Духаўскім прыходзе ў Беластоку адбылася другая частка Агульнага сходу Брацтва праваслаўнай моладзі. Першы тур з'езда праходзіў 21—23 кастрычніка 1994 г. у Белавежы. У сувязі з тым, што тады не ўдалося выканаць усе пункты павесткі дня, вырашана склікаць другую сесію, якая была б працягам з'езда ў Белавежы.

Сустрэча пачалася Святой Літургіяй, якую ўзначаліў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава ў саслужэнні каля дзесяці святароў. Сярод іх былі і духовы апякун Брацтва а. Лявонцій Тафілюк з Бельска-Падляшскага, настаяцелі прыходаў у Ялоўцы, Гарадку, Заблудаве, Дайлідах, святары з прыходаў Беластока. Афіцыйную частку з'езда пачаў архіепіскап Сава — апякун Брацтва ад Святога Сабора Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Потым голас узялі а. Лявонцій Тафілюк і а. Г. Барэчка — настаяцель Свята-Духаўскага прыхода ў Беластоку. У сустрэчы ўдзельнічала каля 90 чалавек, якія прадстаўлялі прыходы Варшаўска-Бельскай і Беластоцка-Гданьскай епархій. Прысутнічаў таксама старшыня Рады Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіі.

Пасля даклада старшыні Яраслава Харкевіча са справаздачай выступілі старшыні епархіяльных рад. Гаварылі яны, між іншым, аб летняй акцыі, малітоўных сустрэчах і паломніцтвах. Варшаўска-Бельская епархія наладзіла супрацоўніцтва з менскім Брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў. Яна — адзін з членаў фонду „Жыццё", які заснаваўся ў Дубічах-Царкоўных з мэтай дапамогі дзецям з Беларусі шляхам арганізавання ім лячэбнага адпачынку на Беласточчыне. Гэта былі практычна адзіныя беларускія акцэнты з'езда.

Пасля абеду адбылася дыскусія ў групах аб актуальных задачах і пытаннях Брацтва праваслаўнай моладзі. Чарговым пунктам з'езда былі перавыбары старшыні і членаў праўлення Брацтва, якія адбыліся пасля Усяночнага дбання і Споведзі.

Новым старшынёй Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы быў выбраны Рыгор Падляскі з прыхода Усіх Святых у Беластоку.

Апошнія пункты праграмы, якія завяршылі XIII Агульны сход Брацтва праваслаўнай моладзі — удзел у Літургіі, а пасля сняданак і падвядзенне вынікаў — адбыліся ўжо ў нядзелю, 11 снежня 1994 г.

**С. Сулковіч**

## Слава Богу!

Слава Богу за ўсё,
За смутак і радасць.
Слава Богу за сонца і вецер,
Слава за дождж і мароз.
Дзякуй Богу за ўсё,
І што ў жыцці мы церпім.
Усё ад Бога нам дана.
За радасці, нягоды,
За кары, узнагароды.
Дзякуй Богу за ўсё,
За суцеху і скруху.
Дзякуй Богу за дзень і за вечар.

**Аўрора**

# ЧАЛАВЕК РОДЗІЦЦА З ДАРАМ

**Першы цудоўны сон прысніўся Ганне Бандарук у 16 гадоў. З захаду на ўсход ляцелі ангелы-архангелы і так хораша спявалі, як на Грабарцы. Прасіла іх Ганна, каб узялі яе з сабою, то яны адказалі так: „Не возьмем цябе цяпер, ано возьмем на старыя леты".**

„Ужо я была старэйшай, калі ангелы ўзялі мяне ў царкву, паставілі аналойчык перад Божай Мацерай і сказалі: „Чытай Евангелле". Я на гэта, што не ўмею, не выгаварваю слоў, не граматная, сляпая — не буду. Дайце якую кару, біце, распінайце, но Евангелля чытаць не буду, бо не ўмею. Тады яны кажуць: добра, але што мы табе загадаем, то ты мусіш рабіць. І з тае пары мне снамі ўсё валяць. Во, як яны мяне ўзялі на старыя леты".

Сны Ганне прадказваюць дабратворныя месцы. Там будуе царкву. „Ці я мала дала на царкву ў Чаромсе? Я там амаль пляц купіла, пакуль мяне не выгналі адтуль. Але там на Чаромсе колькі людзей сцалілася! Вунь сын прадаўшчыцы з Чахоў крыж туды занёс, закапаў і падучка прапала. Адна баба з Бельска — колькі разоў да мяне ездзіла — казала, калі вынеслі пасля абедні крыж і закопвалі, то яна чула, як штось на яе з неба ляцела. І адпусцілі хваробы, больш да мяне не паехала. Во чаму я на Чаромху давала. Мне гэтае месца снілася, калі яшчэ ніхто туды не хадзіў".

Таксама ў сне, мужчына, які кашляў, напісаў палкай на пяску: „Имеешь поставить крест в Елянцы на Воскресение, второй день". „Але што зробіш, як бацюшка не хоча. Я зайшла ў Елянку і кажу: хлопцы, змілуйцеся, ратуйце. І мне солтыс памог, то яны яшчэ смяяліся, га-га-га, той п'яніца табе паможа? Але ўсё-ткі высвяцілі, не на другі, на трэці дзень. А тады, як прышло лета, кажу: бацюшка, стаіць крыж, то

**ТРЭБА ЦАРКВУ БУДАВАЦЬ.**

І царква стаіць. Але тады той бацюшка зышоў, а гэты з мяне злодзея зрабіў і я да Елянкі нічога ўжо не маю. Я ўжо на Замосць збірала, помню, на Міколу ў Гайнаўцы мне благачынны забараніў, бо паслухаўся нашага бацюшку. Мне так крыўдна, так балюча стала, што плакала я ўсю службу. А пры мне ўжо былі грошы на Маліннікі. Як прыляцела я ў Дубічы, наняла таксоўку і паперла ў Маліннікі".

Гэтае месца Ганне снілася ўжо раней. На могілкі ў Малінніках ішоў Гаўрыіл — „той маленькі, Заблудаўскі" — і нёс крыжык. „Але гэта не мой прыход, не было як учапіцца. Дый падумала я сабе, а што то я, бусел, каб свет чысціць".

У Малінніках добра паставілі, у тым месцы, што трэба. Але елянскай царкве не тое імя далі. Назвалі яе Іванаўскай, а Ганне ў сне прысніліся Кузьма і Дзям'ян. Такое месца, лічыць яна, не будзе памагаць, бо не мае свайго імені, як клуня якая.

Пра Маліннікі такі сон прысніўся: „Стаіць выкапаны калодзеж, пусты, а ззаду —істочнік вады жывое. Бяжыць рэчанька, з жоўтым пясочкам, і проста ў дзверы каплічкі. То як гэта не тое месца? Тое месца!"

„А як мелі бляхай крыць, то мне сніцца сон, што быццам там нічога няма, адно лес такі маладзенькі. А хтось гаворыць: „Пасі оўцы мае". Я азірнулася, а там каплічка стаіць. Я хачу там манастыр зрабіць. Туды будуць ісці людзі як на Грабарку, бо то цуд! Я хачу туды або Гаўрыіла з Супраслі, або Яўгена Падгаецкага з Ляўкова пасяліць, бо яны маюць дар Божы сцаляць. Кажуць мне, хто яго будзе ўтрымліваць, то я адказваю — я сама магу". Гэтыя святары

**НАРАДЗІЛІСЯ З ДАРАМ.**

Да іх, калі падысці ў час прычасця пад чашу, толькі каб пасярод царквы, сярод прычашчаснікаў — то хвароба чалавека адпусціць. „Ім трэба, каб залатыя шапкі далі, Бо мала ў нас такіх бацюшкаў, з дарам. Я налічыла ўсяго пяць. Апрача гэтых, то яшчэ айцец Анатоль з Гайнаўкі, Фёдар, той што ў Нарве і дубінскі настаяцель. Ано ў Дубінах стараста ўсё яўкаціць, пад чашу не пускае. Але гэтыя бацюшкі, то найлепшыя дахтары, іх трэба каб людзі шанавалі, бо яны маюць дар".

У сне было загадана Ганне высвяціць месца пад каплічку Марыі Магдаліны ў Сухавольцах. „І яшчэ дзесь грымне царква, но я да яе спачатку не прыкаснуся, бо да акон яе збудуе сам Хрыстос. Будзе там ісці дарога, па якой людзі будуць праходзіць і там такія карчы будуць, і месца абгароджанае сеткай. Ано я пакуль не ведаю дзе, але як Бог дасць здароўе, то трэба будзе дапамагчы. Я бачыла тое месца ў сне. Ідзе такі малады чалавек і кажа: глядзі як Хрыстос царкву будуе! Хадзі, пасобіма яму. Стаў ён па той бок сеткі, а я па гэты, а побач цэгла ляжыць. Я на такой дошчачцы спускаю ў яму, а ён падае Ісусу Хрысту. А цэглы о тако ляцяць! Я аж ускрыкнула — о падзівіся, вокны ўжо стаяць! Яшчэ мне можа гэтае месца ўсніцца".

Да Ганны, у Рутку, едуць людзі зусюль. З усялякімі хваробамі. „Калі б тыя цэрквы не памагалі мне, то я не лячыла б. Але яны мне памагаюць, я лячу і на іх аддаю. Я сама па сабе нічога не знаю,

**НЕ ПАМАГАЮ, АНО ЎСЁ МАЛІТВЫ,**

бо я на каленях стаяла, прысягала. І, відно, памагае. Быў у мяне 12-гадовы хлопчык з Бельска, Пятро, у мозгу гуз зрабіўся. Ляжаў у Беластоку, потым у Варшаву перакінулі, а бацькі спачатку да трох бабоў падаліся, а затым да дзевяці і што вы думаеце, хутка дахаты будуць забіраць. А гэта ад355 пералёку, ад нерваў. Ад пералёку можа ўсё быць, боль схапіць і скрывіць чалавека можа. Быў у мяне стары ўжо дзядзька з Тапчыкал, пералякаўся пажару, то цэлы дрыжаў. Калі хто пералякаецца, то не трэба хутчэй да дахтароў перці, а паспрабаваць па бабах. Калі не паможа, можна падацца і да дохтара, але пачынаць ад бабоў. У мяне самой адна дохтарка з Беластока была, сухая як патычак. На грудзі нешта выскачыла, мелі рэзаць і неяк абышлося. То яшчэ з падаркам прыязджала, но я падарак гэты не ўзяла. Калі ў каго скулы, ці раны, ці падучка, таксама напачатак да бабоў кіравацца. Яны пабачаць, ці можна загаварыць. Бо шкада, каб людзі без часу на той свет адыходзілі".

На падучую хваробу памагае зерне з каляды. Трэба назбіраць зернятак з дзевяці хатаў, змалоць у млынку і патрошку есці на працягу дзевяці месяцаў. І гэта ніякае не вядзьмарства, як палічыў кум Ганны, які не даў сваёй каляды. А цяжарныя жанчыны павінны браць просфару з усеначнай першага дня Раждзества. Калі прыйдзе пара, просфару ўзяць з сабою ў шпіталь, там згаварыць тры разы „Багародзіцу", з'есці яе. Роды будуць лёгкія.

Ад пералёку можа падкаджваць толькі тая жанчына, якая выйшла з гадоў. Дзеля гэтага з пасвячанай на Успенне кветкі трэба высушыць пялёсткі — толькі, каб былі 9 розных модаў — і імі падкаджваць.

Ганна з Руткі, калі падкаджвае або загаворвае, моліцца доўга. Малітва гэтая своеасаблівая і наўрад ці хто змог бы яе паўтарыць. Тут і „Ойча наш", і „Хрыстос васкрэсе", і малітва дадзеная сном. Побач з царкоўнаславянскай і беларускай, польская мова.

„Усе страхі, урокі, пералёкі, парушаны, пераможаны, нервы, плачы, грызы, румакі, сікуны, скулы, раны, чорныя плямы, пятны, нарослі, лушчыца, блішчыца, шумяшча кроў, каб яна зышла з раба Божага..."

**Мікола Ваўранюк**

# Вера і ўчынкі

Нарыс „Свяціцель Іаан Златавусты" пяра С. Н. і „Слова Божае на нядзелю" айца Канстанціна Бандарука цікавыя і карысныя для хрысціян. Кожны чытач „Нівы" павінен іх прачытаць і павучыцца ісціне. Я заглянуў у кнігу на рускай мовс „Краткия жития святых на весь год", Варшава, 1929 год. На 240 старонцы знайшоў я кароткую даведку пра Іаана Златавустага: „скончался в заточении в 407 году". С. Н. піша „па дарозе памірае ад знясіленасці ў мясцовасці Комены (Абхазія)". Дзе праўда? Думаю, што С. Н. больш праўдзіва напісаў і яму трэба верыць, хаця думаю, што гэта малаважная справа. Бо сапраўды важнымі з'яўляюцца сам святы Іаан Златавусты і яго навукі. Айцец К. Бандарук закрануў справу аднаго чалавека, які, паводле Евангелля, па дарозе ў Ерыхон стаў ахвярай разбойнікаў. Няшчасным чалавекам заняўся самаранін — прадстаўнік суседняга, пагарджанага яўрэямі народа. Хрыстос у гэтай прытчы ясна даказаў нам усім, што вера без добрых учынкаў нявартая ломанага граша і калі будзем паступаць так, як паступілі з пакрыўджаным святар і левіт, дык не ўвойдзем у Царства Нябеснае. На жаль, большасць з нас так паступае і скора забудзем сваю родную мову і намі будуць кіраваць іншыя нацыі, а нават і сам д'ябал. Бо калі шануем сваю спадчыну, мову, айчыну, а крывадушнасць нам чужая, — мы шануем свайго бліжняга, як той самаранін.

Варта падумаць аб гэтым.

**Мікалай Панфілюк**

# Барыс Руско на шырокіх водах

Барыс Руско — паэт добра вядомы чытачам „Нівы". Ды і не толькі ім! Друкуецца ён, на польскай мове, таксама і ў іншых часопісах. На нашым беластоцкім панадворку найчасцей у „Przeglądzie Prawosławnym" і „Gazecie Tygodniowej". Апошнім часам Барыс Руско выплывае на шырэйшыя воды. Вось у лістападаўскім нумары (ад 1994 г.) штомесячніка „Echa leśne", выдаванага ў Варшаве, рэкамендацыі нашага паэта адведзена аж дзве сумежныя старонкі (г.зв. разварот). Апрача біяграфічна-творчай зводкі, у якой упамінаецца і „Ніва", змешчаны тры вершы: „Пушча", „Калі я на вуліцы" і „У пушчы". Асаблівага настрою прыдае тэкстам надта прыгожы, вялікі, каляровы здымак ляснога пейзажу, выкананы ў паэтычнай манеры. А на ім надпіс — крэда паэта: „Пушча са мною ўсюды". Аж хочацца гэтыя старонкі выняць з часопіса, уставіць у рамкі і павесіць у пакоі.

Нашага сябру, Барыса Руско, шчыра віншуем!

**П. Байко**

# ЛЕГЕНДЫ НАШАЙ ЗЯМЛІ

* * *

Сваю легенду мае Пагорак какаяннікаў пад Грабаркай. Гэтае месца праславілася ў 1710 годзе ў час эпідэміі халеры, ад якой памерла многа людзей у ваколіцы. Уратаваліся толькі тыя, што паслухаўшы аднаго дзядулю, якому прысніўся прарочы сон, схаваліся на ўзгорку пад Грабаркай і пілі выключна ваду з мясцовай крыніцы. З тае пары паломніцтвы на вяршыню пагорка сталі народным звычаем, а калі ў мінулым стагоддзі пабудавалі царкву — набылі яны рэлігійны характар. Кожны год, у жніўні, сюды прыходзяць і прыязджаюць пілігрымы розных веравызнанняў, якія прывозяць і прыносяць пакаянныя крыжы. Зараз навокал царквы стаіць цэлы лес тых крыжоў.

* * *

Даўно таму назад зараз за Мельнікам на гары Ушэсця знаходзіўся язычаскі храм, а потым першая ў гэтых ваколіцах царква. Яна па невядомых прычынах правалілася пад зямлю разам з людзьмі, якія якраз у ёй маліліся.

Прайшло некалькі стагоддзяў. Аднойчы, а было гэта ў нядзелю, рыбакі закінулі невады ў рацэ Буг ля Мельніка. Было гэта ў самы поўдзень. Пачалі выцягваць з вады штось вельмі цяжкае. Адзін з рыбакоў вылаяўся, бо калі ўжо цяжар быў амаль на паверхні, нешта са звонам правалілася ўглыб. Былі гэта званы. Рыбакі пакінулі лоўлю і вярнуліся дадому.

У наступную нядзелю выбраўся над Буг той рыбак, які вылаяўся. Быў ён сам, без сваёй кампаніі. Раптам пасярэдзіне ракі з вады выплыла прыгожая дзяўчына і, угледзеўшы рыбака, пачала яго ўпікаць, навошта вылаяўся. „Калі б ты гэтак не зрабіў, — сказала, — ты ўсіх нас затопленых выратаваў бы, а так сам загінеш, калі цябе яшчэ раз на рацэ ўбачу". Сказаўшы гэтыя словы, яна знікла. Рыбак вярнуўся дамоў.

У бліжэйшую нядзелю рыбак, не прыдаючы значэння пагрозам дзяўчыны, выплыў на Буг. Калі апынуўся далёка ад берага, зноў з'явілася тая прыгажуня. Сказала толькі: „Ты тут?" і пацягнула яго за сабою ў бяздонне, дзе і зніклі абое.

З таго часу ніхто не прабаваў выцягваць званы з дна Буга.

* * *

Даўным-даўно жыў ля Мацейкавай Гары дужы разбойнік Мацейка. Нікога і нічога ён не баяўся. Рабаваў купцоў на людным гасцінцы, нападаў на чаўны і лодкі, якія плылі па рацэ Нарве. А каб зручней было пераймаць падарожных, загадаў сваім палоннікам пракапаць новае рэчышча. Паплыла з таго часу Нарва пад самой гарою, і ніводзін вандроўнік не мог абмінуць страшнай сустрэчы з Мацейкам. Мацнела крэпасць разбойніка, і пухлі ў ёй ад золата скрыні.

У цёмныя асеннія і зімовыя ночы, калі хваля на рацэ цяжка ўздыхала ды ад віхуры стагнаў лес, спраўляў Мацейка свае балі. Забаўляўся з прыгажунямі-паланянкамі нядобрым каханнем. На світанку канчалася гульбішча і целы замучаных нявольніц абмывала рачная тоня.

Але здарылася, што Мацейка закахаўся ў адну са сваіх нявольніц. Ахвяраваў ёй золата і багацці, кляўся ў вернасці. Аднак дзяўчына замест раскошнага жыцця з разбойнікам выбрала сабе смерць. У цёмную віхурыстую ноч павесілася яна на сваёй пышнай касе. Разбойніка ахапіла роспач. Загадаў ён справіць сваёй каханай урачыстае пахаванне, вымураваць глыбокі склеп. Калі ж апусцілі туды цела паланянкі, Мацейка таксама сышоў у магілу і сказаў замураваць сябе разам з каханай, а тое месца сталі называць Мацейкавай Гарой.

**Сабраў і апрацаваў**
**Янка Целушэцкі**

# НАВІНЫ

Дарагія чытачы,
Калі ўдзень або ўначы
Захочаце нешта знаць —
Варта ў „Ніву" заглядаць.

Тут навейшыя навіны
Пра падзеі з кожнай гміны
У беластоцкім нашым краі
Чытаць шчыра запрашаем.

Пра тую чорную кошку,
Што перабегла дарожку.
Пра бараноў і авечак
З гарадоў і мястэчак.

Як у Харошчы ў палацы
Жылі дзед і баба без працы,
Дровы ў печцы палілі
І мухі ў капусце варылі.

Як у Мельніку цыганка
Спаткала пана пад банкам,
Салодзенька варажыла —
З кашальком пустым пусціла.

Як у Маскве пасля нарады
Рашылі важныя ўлады,
Каб для прыгожых дзяўчатак
Плаціць эстэтычны дадатак.

Як салдат у Ваўкавыску
Злавіў жабу у калыску;
Ночку цэлу калыхаў —
Заснуць жабе не даваў.

Як у Свіслачы Ігнат
Прадаў трыццаць парасят,
І ў Гаўрылы ў Міхалове
Купіў для свінні палову.

Як аднойчы у Кляшчэлі
Буслы з дзецьмі прыляцелі.
Ды на рынку страх стаяў —
Добрых птушак напужаў.

Як у Сямяцічах пад плотам
Выбіраў мастак балота:
Штаны поўныя набраў,
Носам плот памаляваў.

Як у Крынках ў старой хаце
Пакаціла цёшча зяця
На дыванік у куточку
Аж парвалася сарочка.

Як ў Мілейчыцах на ўзгорку
Пасадзіў матрос махорку;
Потым так яе курыў,
Што нос дымам абсмаліў.

Як на рынку у Дуброве
Прычасалі хвост карове,
Красну стужку прывязалі —
Да быка пугой пагналі.

Як ў люстэрку певень Ніны
Пабачыў свой твар звярыны
І так слаўна гада біў,
Што ўсё пер'е пагубіў.

Як варшаўскі рыцар Шура
Узбагаціў цэнтр культуры;
Моц трафеяў ён здабыў —
У пасталах ў музей пабрыў.

Як у Супрасль на стрып-тыз
Прыехаў адзін міністр;
Тры дзеўкі яго спарвалі —
Цэлу ночку распранаві.

Як аднойчы у Пружаны
Выбраўся калгаснік п'яны;
Даярка яго спыніла
І ў садочку падаіла.

Як у кузні у Чыжах
Падкавалі барана.
Ён падковамі хваліўся
І ў балоце утапіўся.

Як на пляжы ў Семяноўцы
Дзеўкі біліся за хлопца.
Ён тым часам не драмаў:
Выпіў і ў калюжы спаў.

Як з кустоў пад Гарадком
Сцелецца дымок кругом.
Гэтак вараць мужыкі
Французскія каньякі.

Як у Белавежы ў парку
Прыдушыў турыст кухарку;
Яна стала рагатаць —
Смяльчак кінуўся ўцякаць.

Як скамарох з Грабаўца
Вершы на вадзе пісаў;
Потым крык падняў і лямант
Што вада змыла атрамант.

Як у гайнаўскай бальніцы
Раздавалі хлопцам шпрыцы:
Надта хворыя дзяўчыны
Каб лячыць пені-цылінам.

Як ў Чаромсе машыністы
Заснавалі клуб турыста;
Па станцыі вандравалі —
Цягнікоў сваіх шукалі.

Як турысткі у Кузніцы
Возяць скарбы пад спадніцай.
Мытнікі скарбаў шукаюць
І спаднічкі адхіляюць.

Як на лаўцы у Саколцы
Села дзеўка каля хлопца
І так бойка падсядала,
Што аж лаўка затрашчала.

Як у Гродне генерал
Прыйшоў у форме на вакзал
І прадаць хацеў білеты
На падлодкі і ракеты.

Як у Орлі шафёр „Фіата"
Выпіў за здароўе свата.
Прысудзіў суддзя шафёра,
Каб расплакаўся ад гора.

Як ў Заблудаве вясной
Мяшчане вывозяць гной.
А на пенсіі, ля печы,
Земляробы грэюць плечы.

Як у Нарве з-над ракі
Вярнуліся рыбакі
І ў рэстаране вечаркам
Рыб шукалі пад сталом.

Як стары у маладзіцы
Злавіў рыбу ў нагавіцы.
Дзеўка моцна зазлавала
І вудачку абарвала.

Як у Бельску на банкеце
Дама спала у катлеце.
Раніцай яна прачнулась —
На другі бок павярнулась.

Як на рыначку казак
Выпіў увесь свой каньяк
І ў дзяўчыны чорнабровай
Прасіў водкі выбаровай.

Як у Менску на вакзале
Прэзідэнта праважаюць,
Калі едзе у Маскву
Цалаваць цара ў шчаку.

Як ў найт-клубе ў Беластоку
Падсыпалі ў чай аброку
Каб прыдаць танцоркам сілы
Наравістае кабылы.

Як ў Варшаве у гатэлі
Адкрыць ярмарку хацелі
Дзе паненкі за даляры
Вялі б купцоў у будуары.

Дарагія чытачы,
Калі ўдзень або ўначы
Захочаце нешта знаць,
Варта ў „Ніву" заглядаць!

**Адам Маньяк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Нядаўна звярнулася я да цябе, каб расшыфраваў ты мне сон, які, на маю думку, прадвяшчае нешта нядобрае, а тут ужо і два наступныя прысніліся. Ды напужалі яны мяне не менш, чым папярэдні.

Сніцца, што я прыехала да бацькоў на вёску. Уваходжу ў хату, бачу, у пасцелі ляжыць хворы — ні то бацька, ні то хтосьці чужы. А пры ім сядзіць маці і плача. Прыглядаюся бліжэй: усё ж гэта бацька. Маці адышла ад бацькі, села на лаве і жаліцца мне, што і яна хворая, бо таксама гарачку мае. Я дакранулася да яе галавы і кажу: „Гарачкі, мусіць, у вас няма!"

І зараз жа сніцца другі сон. Нібыта мой муж купіў дом. Я ўвайшла ў яго, хаджу і аглядаю. Дом вялікі, два прасторныя пакоі. Але збудаваны інакш, чым цяпер будуюць. Інакш размешчаны вокны, іншыя сцены. У кутку бульба ляжыць. Прыйшла дзяўчынка-сваячка, кажа: „Я спяку бульбу на вячэру!" Я з ёю згадзілася. Пайшла і прынесла ёй бульбы. Тут сон абарваўся, бо муж крыкнуў: „Уставай, на працу спознішся!".

**Кацярына**

Кацярына! Абодва твае сны прадвяшчаюць сапраўды нешта кепскае — хваробу, а мо нават і смерць. У першым сне за гэта гаворыць бацька, які ляжаў у пасцелі, ды нездаровая маці. Другі сон прадвяшчае хвораму блізкую смерць, а здароваму цяжкую працу (новы дом). Паколькі з першага сну вынікае нейкая хвароба, дык можа яна закончыцца смерцю.

**АСТРОН**

<u>Цікава ведаць</u>

## ЯК І ДЗЕ?

Заляцанкі бываюць розныя і дзіўныя. У адной правінцыі Італіі захаваўся звычай „задатку кахання". Закаханы хлопец, як хоча ажаніцца, прыносіць уначы драўляны пень пад дзверы хаты, дзе жыве каханая. Калі назаўтра дзяўчына пяройдзе абыякава каля пня, значыць, яна не хоча яго. Калі, аднак, дзяўчына завалачэ пень у хату і памогуць ёй у гэтым маці і бацька, значыць, яна хоча выйсці за яго замуж.

У Індыі дзяўчына ў сям'і — гэта няшчасце. Таму стараюцца выдаць яе чым хутчэй замуж. Урад Індыі забараніў выдаваць дзяўчат замуж да 14 года жыцця.

А зноў у арабаў, у Йемене, дзяўчына каштуе і то надта дорага. За 14-гадовую дзеву трэба заплаціць 50 таляраў, а калі паходзіць з багатай сям'і, цана аўтаматычна расце да 300 таляраў, а нават і больш. Прытым, той хто купляе, можа пабачыць сваю будучую жонку толькі падчас шлюбу. Гэта — купля „ката ў мяшку"! Таму ў Йемене часта разводзяцца.

Вельмі лёгка здабыць жонку ў афрыканскіх масаяў. Там даволі закінуць дзяўчыне на шыю пас і сказаць: „будзеш маёй жонкай". У некаторых народаў Паўночнага В'етнама мужчына, які хоча ажаніцца, павінен адпрацоўваць тры гады на гаспадарцы ў бацькоў дзяўчыны. Пасля трох гадоў бацькі часамі не згаджаюцца, каб ён стаў мужам іх дачкі, і мужчына адыходзіць з нічым. Больш энергічныя, якія не пагаджаюцца з гэтакай несправядлівасцю, крадуць дзяўчыну і ўцякаюць да сваіх бацькоў.

**ЯСЕНЬ**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежных валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 375. Юры Леанюк (Грабавец) | — 240.000 зл. |
| 4 376. Аляксей Галёнка (Гайнаўка) | — 120.000 зл. |
| 4 377. Галіна Кандрацюк (Гайнаўка) | — 160.000 зл. |
| 4 378. Раіса Беразавец (Гайнаўка) | — 200.000 зл. |
| 4 379. Раман Скепка (Гайнаўка) | — 80.000 зл. |
| 4 380. Люцына Дрозд (Гайнаўка) | — 120.000 зл. |
| 4 381. Юры Карпюк (Вярсток) | — 80.000 зл. |
| 4 382. Міраслаў Куптэль (Ягаднікі) | — 40.000 зл. |
| 4 383. Цывільная суполка АДМ, музычны калектыў (Гайнаўка) | — 200.000 зл. |
| 4 384. Галіна Маліш (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4 385. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4 386. Ян Карпюк (Забагонне) | — 100.000 зл. |
| 4 387. Іяланта Вішнеўская (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4 388. Галена Ігнацюк (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 zł (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# СЕНТЭНЦЫЇ

Дарог многа,
але толькі адной ідзе жыццё.
* * *
Калі няма паветра,
дыханне лішняе.
* * *
Трымай язык на прывязі,
бо ўкусіць.
* * *
Паранены той,
у каго крывавіць душа.
* * *
Жыццё не маці, не прытуліць.

**Барыс Руско**

# ПАРАДЫ ЗА СТАЛОМ

**Калі...**

...адчулі, што вам падклалі свінню, папрасіце, каб падалі хрэну.

...не купілі на Новы год шампанскага, страляйце са звычайнай ляскаўкі.

...пачало двaіцца ў вачах, трымайце шклянкі ў абедзвюх руках.

...трапілі відэльцам у талерку суседа, дазвольце яму зрабіць тое ж.

**Вячаслаў Гілевіч**

# НІЎКА

Мал. М. Гіргеля

*Сяргей Даўлатаў*

## З „Запісных кніжак"[1]

Жонка майго брата гаварыла:

— Бора ў жахлівым стане. Абодва вы п'яніцы. Але тваё становішча лепшае. Ты можаш піць дзень. Тры дні. Тыдзень. Потым ты месяц не п'еш. Займаешся справамі, пішаш. У Боры ўсё па-іншаму. Ён п'е штодня і, апрача таго, у яго бываюць запоі.

* * *

Мая жонка гаварыла:

— Комплексы ёсць ва ўсіх. Ты не выключэнне. У цябе комплекс маёй непаўнацэннасці.

* * *

Прыехаў да нас у ахову[2] сяржант з Масквы. Культурны чалавек, і нават сын пісьменніка. І было яму ў нашым хамскім асяроддзі няўтульна. А яму якраз хацелася выглядаць „сваім". І вось ён пастаянна мацюкаўся, каб заслужыць давер. Аднаго разу ён крыкнуў на яфрэйтара Гаенку:

— Ты что, ебнýлся?

Менавіта так паставіў націск — „ебнýлся".

Гаенка сказаў у адказ:

— Таварыш сяржант, вы не маеце рацыі. Па-руску можна сказаць — *ёбнулся, ебанýлся* або *наебнýлся*. А „ебнулся" — такога слова ў рускай літаратурнай мове, прабачце мне, няма!

* * *

Шпацыравалі аднойчы Шклярынскі з Дворкіным. Гутарылі на ўсе магчымыя тэмы. У тым ліку і пра жанчын. Шклярынскі ў рамантычным духу. А Дворкін — з характэрнай непасрэднасцю.

Шклярынскі не стрываў:

— Што ж гэта ты? Усё — трахаў дый трахаў. Ці ж нельга выказацца больш пристойна?

— Як?

— Скажам: „Ён з ёю быў". Або: „Яны злучыліся..."

Шпацыруюць далей. Гутараць. Шклярынскі пытаецца:

— Дарэчы, якія ў цябе адносіны з Ларысай М.?

— Я з ёю быў, — адказаў Дворкін.

— У сэнсе — трахаў? — перапытаў Шклярынскі.

* * *

Паэт Ахапкін надумаўся жаніцца. Потым прагнаў нарачоную. Матывы:

— Яна, разумееш, паволі ходзіць, а галоўнае — штодня есць!

* * *

У маладосці Бітаў паводзіў сябе агрэсіўна. Асабліва ў нецвярозым стане. Неяк аднаго разу ён ударыў паэта Вазнясенскага.

Гэты быў ужо не першы выпадак такога роду. Бітава прыцягнулі да сяброўскага суда. Справы ў яго былі дрэнь. І тады Бітаў выступіў з прамовай. Ён сказаў:

— Выслухайце мяне і прыміце аб'ектыўнае рашэнне. Толькі спачатку выслухайце, як гэта было. Я раскажу, як гэта здарылася, і тады вы мяне зразумееце. І паслядоўна — прызнаеце мяне невіноўным. Таму што я не вінаваты. Зараз усім гэта стане ясна. Галоўнае, выслухайце, як гэта ўсё было.

— Ну і як гэта ўсё было? — пацікавіліся суддзі.

— Гэта было так. Заходжу ў „Кантыненталь". Стаіць Андрэй Вазнясенскі. А цяпер адкажыце, — усклікнуў Бітаў, — ці мог я яму не даць па фізіяноміі?!

*(працяг будзе)*

Выбраў і пераклаў
**Ян Максімюк**

[1] Сергей Довлатов, *Записные книжки*, „Исскуство", Санкт Петербург, 1992.

[2] Даўлатаў вайсковую службу праходзіў у вартаўнічых аддзелах, якія пільнавалі лагераў зняволення.

# НАВАГОДНІ КАСЯК

**Направа:** 1. горад на Беласточчыне, 2. краіна з Венай, 4. цэнтр ваяводства сумежнага з Беласточчынай, 6. восьмая ступень гамы, 7. дзяржава Хрушчова, 8. там літоўская АЭС, 10. літаратурны жанр, 13. горад паблізу Васількава, 14. даклад, 16. помнік у выглядзе высокага слупа, 17. кантынент, 19. там яблыні, грушы, 20. вялікі чыгуначны вузел у Беларусі.

**Налева:** 1. горад на Бельшчыне або абласны цэнтр у Расеі, 3. лясун, 5. паказвае гадзіны, мінуты, 6. канец малітвы, 7. пасёлак, сяло, 9. арктычны „лес", 11. трэніровачныя заняткі на ваенным палігоне, 12. цяжкі тугаплаўны метал серабрыста-белага колеру, 15. сельскагаспадарчая машына, 16. металічны барометр, 18. абласны горад у Сібіры, 19. лік, 21. не цела.

**(Ш)**

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 17 18 19 20 21

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 46 н-ра:**

**Гарызантальна:** салома, шырата, навела, клас, арда, верхаводка, вата, дама, Венера, гітара, Данбас.

**Вертыкальна:** Сафокл, мана, шыла, Таледа, веславанне, асвета, аркада, варагі, Мадрас, вера, рада.

**Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Галена Тапалянская з Трасцянкі і Бэата Капій з Любліна.**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! З Аняй мы сябравалі ад таго часу, калі яна прыехала ў Беласток. Была яна тут новым чалавекам, а я ж была беластачанкай. Мне хацелася дапамагчы ёй знайсці тут свой дом, прывыкнуць да Беластока і яго жыхароў. Мы працавалі разам і вельмі палюбілі адна другую.

Хаця Ані не споўнілася яшчэ і дваццаці гадоў, была яна ўжо замужняя, а таксама мела маленькую дачушку. Муж яе быў намнога старэйшы і, на жаль, разведзены. Дзеля Ані ён кінуў жонку і сына-падлетка.

Калі я глядзела на гэту пару, дык мушу табе, Сэрцайка, прызнацца, што часамі мне рабілася моташна. Яна — маладзенькая і прыгажуня, а ён — стары і нейкі... смярдзючы. Ніколі я не пыталася, колькі яму гадоў, але, дальбог, пяцьдзесят было. Куды яму да такой дзяўчыны!

Я таксама, як і Анін муж, была ўжо разведзеная. Муж мне трапіўся абы-якi! Што з таго, што прыгожы, калі з дзвюма левымі рукамі. Віно, дзяўчынкі і спеў — больш нічога яго ў жыцці не цікавіла. Ну, і разышліся. Так што Аня была мне ў нейкай ступені пацехай на маё адзіноцтва. Мы разам пачалі выходзіць то туды, то сюды. Часамі быў з намі і яе муж, але ўсё гэта яго так мала цікавіла, што нярaз ён выходзіў з кампаніі раней, тлумачачыся, што мусіць пільнаваць дзіця, хаця пры дзіцяці была нянька. Ну, дык мы пачалі хадзіць без яго.

Ну, і доўга чакаць не давялося. Аня закахалася! Чалавек гэты быў значна маладзейшы за яе мужа і нежанаты. Тады толькі яна расказала мне, як выйшла замуж. Зусім яна не кахала свайго мужа. Але імпанаваў ёй сваімі ведамі, навучыў яе цікавай прафесіі, адным словам, каб не ён, не было б і яе такой, якой яна ёсць. Нават хадзіць прыгожа, маляваца, апранацца ён яе навучыў. За гэта яна так прывязалася да яго, што выйшла за яго замуж. А ён яе кахаў страшна! Ну, вядома, калі кінуў першую сям'ю...

А цяпер вось і яна закахалася першым гарачым каханнем. Але гэты чалавек да жанячкі не быў хуткі. Прынамсі не меў ахвоты на тое, каб выхоўваць чужых дзяцей. А дзяўчат, чаму ж не, любіў да яшчэ як! І Аню выкарыстаў, ну, не ведаю, як там было, мо і закахаўся ў яе, але як толькі ўбачыў, што робіцца горача, уцёк у сваю Варшаву. А сітуацыя сапраўды ўжо была і непрыгожая. Аня не вярталася часта нанач дахаты, хаця там яе чакала ні ў чым не вінаватая маленькая дзяўчынка. Муж лётаў усюды, сачыў за ёю, расказваў усім навокал, якая яна к... Відаць, яе каханы меў усіх гэтых брудаў па самыя вушы, дык уцёк.

Аня за ім не паехала. Не маліла яго, не прасіла, а толькі плакала. Але з мужам ужо жыць не хацела. Узяла дзіця і наняла кватэру. І, думаеш, яе муж доўга так вытрываў? Выехаў у іншы горад, там ізноў ажаніўся (з Аняй развяліся), а Аня вярнулася з дачкой у сваю кватэру.

Я была ўпэўнена, што цяпер ужо, калі Аня захоча з кімсь звязацца, дык толькі з кахання. А яна пачала шукаць па розных газетах матрыманіяльныя аб'явы. І, уяві сабе, знайшла адпаведнага кандыдата — з адной з паўночных, заможных краін: немаладога, непрыгожага, але з нейкай старой арыстакратычнай сям'і, а на дадатак багатага.

Цяпер Аня прыязджае летам да нас і смяецца: бо вы дурныя бабы і не ўмеце жыць! А ў мяне ў сярэдзіне ўсё тады пераварочваецца.

**Бася**

Бася! Аня не пачала сваё дарослае жыццё ад кахання, а тое каханне, якое пазней трапілася ёй, прынесла толькі расчараванне. Відаць, прыйшла яна да вываду, што добры муж, дом ці палацык, грошы — гэта ў жыцці дае лепшыя гарантыі, чым пачуцці. Прынамсі жыццё яе дачкі будзе спакойнае.

Але, можа, пачуццёвае жыццё ідзе ў яе сваёй дарогай, побач, а мо часамі даязджае ў Варшаву...

**Сэрцайка**